Раіса
БАРАВІКОВА

# Казімір — сын Ягайлы + Насця з 8 «б» = ♥





> «...Сыходзячы з тэорыі адноснасці, можна «прабіць тунелем» і нашу чатырохмерную прастору, выходзячы ў нейкае яшчэ невядомае нам вымярэнне, на іншыя «старонкі» кнігі Прыроды».
>
> *Аляксандр Кузаўкін, фізік-оптык*

## НЕ ТОЙ ЧАС, НЕ ТОЕ МЕСЦА. ВІЗІТ У СТО ДЗЕВЯНОСТА СЁМУЮ КВАТЭРУ

Кудлаценькі сабака Дзік — помесь тэр'ера са звычайным дварняком а пятай гадзіне жнівеньскай раніцы ляжаў пад лаўкай, паклаўшы галаву на пярэднія лапы. Дзік драмаў. Яго гаспадыня, дворнічыха цётка Маня, пайшла ў падсобку, што месцілася побач з шостым пад'ездам вялікага шматкватэрнага дзевяціпавярховага дома, каб неўзабаве выкаціць адтуль кантэйнер са смеццем, па які гэтай раніцай павінна прыехаць машына. Дзіку падабаліся гэтыя прахалодныя раннія хвіліны, калі яшчэ не снoўдаюць туды-сюды людзі, не крычаць дзеці, не гудуць аўтамабілі, — самы час паляжаць у цішыні і спакоі, калі нішто не трывожыць, не раздражняе слых. І раптам мокрыя ноздры Дзіка заварушыліся. Ён глыбока ўдыхнуў паветра раз, другі... Пах быў чужы, незнаёмы яго тонкаму сабачаму нюху, такога яму яшчэ ніколі не даводзілася чуць. Ён даносіўся з глыбіні двара, дзе знаходзілася дзіцячая пясочніца, і быў такі рэзкі і нечаканы, што Дзік імгненна ўстрывожыўся. Ён натапырыў вушы і расплю-

шчыў вочы, якія адразу акругліліся ад здзіўлення. Сабака міжволі прыўзняў галаву.

Адразу ж за пясочніцай нізка над зямлёю вісела агромністае яйцо, якое нават прыкрыла сабою крону дрэва, што расло недалёка ад пясочніцы. Гэтае яйцо пералівалася ліловым, блакітным, чырвоным колерамі і апускалася ўсё ніжэй і ніжэй, пакуль, нарэшце, не даткнулася да зямлі. У гэты момант пах стаў такім невыносным, што Дзік нават адвярнуўся, каб удыхнуць паветра, што ішло ад знаёмага пад'езда, ад падсобкі. Але вялікая цікавасць прымусіла яго зноў павярнуць галаву да пясочніцы, дзе ніякага бліскучага яйца ён ужо не пабачыў. На тым месцы, дзе толькі што было яйцо, стаялі два хлопцы ў дзіўнаватым для яго зроку адзенні. Хлопцы не затрымаліся ля пясочніцы. Яны імкліва рушылі да той лаўкі, пад якой ляжаў Дзік. Сабака ўскочыў, выбег з-пад лаўкі. Яму схацелася гучна гаўкнуць, але штосьці стрымала. Замест гэтага ён тоненька заскуголіў, падцяў хвост і пабег да падсобкі, адкуль цётка Маня ўжо каціла цяжкі кантэйнер са смеццем.

Хлопцы selі на лаўку, пад якою толькі што ляжаў Дзік. Глядзелі, як цётка Маня коціць свой кантэйнер.

— Счытай яе думкі, — ціха сказаў адзін з іх.

— Я ўжо счытаў, — адказаў другі. — Для яе непрымальнае наша адзенне.

Цётка Маня параўнялася з імі, на момант прыпыніла кантэйнер:

— Відаць, з нейкага рыцарскага турніру вярнуліся, — сказала з ноткамі павучальнасці. — Дык хаця б хламіды свае паскідалі! Мой унук таксама на турніры гэтыя ходзіць, але ў сваім, у нармальным адзенні дамоў вяртаецца. Тое ўсё недзе там і пакідае! Спаць ідзіце! Людзі хутка з пад'ездаў пачнуць выходзіць, падумаюць, дурнаватыя нейкія сядзяць! — і цётка Маня пакаціла далей свой кантэйнер. Спыніла яго ля самай броўкі, заспяшалася назад у падсобку і быццам аслупянела. У яе вачах застыла здзіўленне і нават перапуд. На лаўцы сядзелі тыя ж самыя хлопцы, але ўжо ў іншым адзенні. На іх былі добра пацёртыя джынсы і футболкі з нейкімі эмблемамі і надпісамі.

Дзік ля расчыненых дзвярэй падсобкі, назіраючы за цёткай Маняй і косячы позірк у бок хлопцаў, зноў ціха заскуголіў. А цётка Маня нечакана пасміхнулася

і шпарка пайшла да падсобкі. І калі ўжо наблізілася да яе, павярнулася да хлопцаў, прамовіла з непрыхаваным дакорам:

— Э-э-э, глянь на іх! Яшчэ нечага паміж сабою не дагаварылі! Сядзяць, як анёльчыкі асалавелыя! У мяне ўнук такі ж, ноч можа недзе прабадзяцца. Я добра вас разумею! А вось ці зразумеюць вас бацькі вашыя?! Можа, усю ноч дзесь не спалі, чакаючы. Ідзіце адсюль! Дамоў вяртайцеся!

І цётка Маня ўвайшла ў падсобку.

— Якія ўсё-ткі гэтыя рэалы надакучлівыя! — сказаў адзін з хлопцаў.

— Я сцёр у яе ўсялякую памяць пра нас, — адказаў другі. — Больш мы яе не пачуем. І сабака супакоіцца! — І тут жа дадаў: — Кокан удала прайшоў калідор, а вось вялікі Інф аказаўся недакладным.

— Гэтага не можа быць!

— Ведаю, што не можа, і ўсё ж недакладнасць адбылася! Хм-м, — ён засмяяўся. — Інф-1 і Інф-2 апынуліся не там, дзе павінны былі апынуцца.

— Я не люблю, калі ты называеш мяне Інф-1, — адразу пачуўся голас аднаго з хлопцаў.

— Я таксама шмат чаго не люблю, — сказаў другі. — Але, калі я — Інф-2, гэта ўжо нязменна! Тое ж самае і ў цябе. Ты заўжды будзеш толькі Інф-1, — ён на хвілінку задумаўся і запытаўся: — Як ты думаеш, калі вялікі Інф зразумее, што памыліўся, ён пашле сюды па нас Кокан?

— Не думаю, — адказаў Інф-1. — Ёсць шмат іншых калідораў у нашай замкнёнасці, дзе мы маглі б пакарыстацца чым заўгодна! Але ён выбраў гэты — самы вузкі калідор, для чаго і спатрэбіўся Кокан. Мяркую, ён даўно ўжо распаўся на асобныя хвалі.

Сонца паднімалася з-за далягляду і асвятліла зямлю сваімі промнямі. Хлопцы маўчалі. З пад'езда выйшаў мужчына з веласіпедам у руках, якога яны правялі доўгім позіркам, але ніхто з іх не парушыў маўчання.

— Добра, — нарэшце прамовіў Інф-2. — Мы можам абысціся і без Кокана. Для таго, каб вярнуцца назад, знойдзем нейкі іншы калідор. Але, але... — Ён задумаўся. — Кокан нас выкінуў, наколькі я зразумеў, у дваццаць першым стагоддзі, а павінен быў выкінуць у пятнаццатым. Памылка амаль у шэсць стагоддзяў — недапушчальная!

Цётка Маня зноў выйшла са сваёй падсобкі. Пайшла да сёмага пад'езда. Каля такога ж кантэйнера, які выкаціла яна, стаяла яшчэ адна дворнічыха. Дзік, весела віхляючы хвастом, пабег за ёй следам.

— Ка-аця, а-а, Ка-аць, — гучна сказала цётка Маня. — Нашы бухгалтары ў домакіраўніцтве ўжо новыя квіткі на квартплату выпісалі. У сярэднім на працэнтаў дваццаць яна вырасла. Цяпер і на ўсё астатняе цэны папаўзуць! А я ўжо кампоты закатала, цяпер без цукру засталася. Ён таксама, напэўна, даражэйшым стане. Трэба было на пачатку лета мяшок браць.

— На ўсё жыццё не набярэшся, — адказала ёй дворнічыха Каця.

— Рэалы па-ранейшаму жывуць толькі дзеля сваёй бялковай масы, — зазначыў Інф-2. — Штодня адзін клопат: чым пракарміцца, у што апрануцца? Калі і працуюць, дык толькі дзеля грошай. Ва ўсім шукаюць матэрыяльную выгаду. І чым больш шукаюць, тым горш жывуць. З-за гэтага часта ваююць. Змагаюцца паміж сабою народы, краіна захоплівае краіну.

— Але сярод іх зрэдку сустракаюцца і геніі, — выказаў сваё меркаванне Інф-1. — Мы таксама валодаем усім тым багаццем, што яны стварылі.

— Ты цудоўна ведаеш, Інф-1, што іхніх геніяў пакуль што вядзе інтуіцыя. Праз яе яны намацваюць інфармацыю і свой шлях. Але гэта адзінкі, хоць рэалы і пачынаюць сцвярджаць, што той, хто валодае інфармацыяй, той валодае светам!

— Іхнім светам, — хутка адазваўся Інф-1. — Нашым светам ніхто не валодае, таму што мы ўсе і ёсць інфармацыя. Мы з імі даўно жывём у розных вымярэннях, апярэдзіўшы іх у сваім развіцці. Мы пайшлі шляхам іншай эвалюцыі. Паміж гэтым і нашым светам — мільёны гадоў. У нас розныя жыццёвыя прасторы. Гэта нам добра вядома, як і тое, што мы з табою павінны былі апынуцца не ў гэтым, а ў іншым часе і ў інакшым месцы.

— Але здарылася тое, што мы бачым, — адказаў Інф-2. — Як толькі мы прайшлі калідор, у нашай разамкнёнасці адбыўся збой.

У гэты момант сабака Дзік падбег да лаўкі і пачаў з усіх бакоў абнюхваць яе. Інф-2 кіўнуў галавой у бок Дзіка і працягнуў:

— Ён таксама многага не разумее ў гэтым сваім свеце, але прыстасаваўся да яго. Мы ж з табою пры-

стасавацца не можам, гэта нам непатрэбна. Таму, калі мы не апынуліся ў 1445 годзе на беразе Нёмана, недалёка ад Мерача, дзе павінен адбыцца замах на гаспадара Вялікага княства Літоўскага шаснаццацігадовага Казіміра — сына ляшскага караля Ягайлы, мы павінны зараз жа пакінуць гэты чужы для нас свет. Замах ужо рыхтуецца. Ён павінен здзейсніцца падчас ловаў, калі вялікі гаспадар выедзе на паляванне, і здзейсніць яго павінны валожынскія князі Сухты. Але задума замаху належыць не ім, а князю Міхайлушку Жыгімонтавічу, што княжыць у Клецаку, — Інф-2 прамаўляў усё гэта выразным роўным голасам, нідзе не збіваючыся, як гэта робяць людзі, якія знекуль счытваюць інфармацыю.

— Я пра ўсё гэта добра ведаю, — сказаў Інф-1. — У тваёй інфармацыі няма нічога дадатковага. Да ўсяго, тое ж самае запісана ў іхніх летапісах.

— Іх летапісы, — гэта іхняя справа, — адказаў Інф-2. — А мы з табою стартуем! І хай даруе гэты сабачка, калі мы здзівім яго яшчэ раз!

І ў гэты ж момант Дзіку вельмі схацелася гаўкнуць, але гук затрымаўся ў горле, і ён, як зачараваны, назіраў за маленькай зорачкай, у якую ў яго на вачах ператварыўся Інф-2. Зорачка адарвалася ад лаўкі і пачала павялічвацца ў памерах. Яна ўжо нагадвала тэнісны мячык, які пераліваўся і зіхацеў — сінім, фіялетавым, чырвоным колерамі. Ад мячыка сыходзіў рэзкі моцны пах — чужы, непрыемны, але Дзік быццам і не адчуваў гэтага паху. Ён сачыў і сачыў за блішчастым мячыкам. І ў яго чорных вачах застывала туга па чымсьці невядомым, нязведаным.

— Інф-2! Чуеш мяне, Інф-2?! — закрычаў Інф-1 і нават ускочыў з лаўкі. — Ты павінен вярнуцца! Я намацаў у аднаго з рэалаў, які жыве ў гэтым доме, Кропку вяртання. Гэты канал звязаны з тым часам і месцам, дзе мы павінны былі апынуцца.

Мячык, які ўжо вырас да памераў футбольнага мяча, імгненна згас, і сабака Дзік моцна гаўкнуў, калі раптоўна зноў пабачыў на лаўцы хлопца ў пацёртых джынсах і футболцы. Інф-1 заставаўся для яго нябачным, таму што яшчэ раней быў сцёрты з яго сабачай памяці. Дзік хацеў гаўкнуць яшчэ раз і быццам папярхнуўся. Тут жа завіхляў хвастом, радуючыся нечаму свайму, сабачаму, і весела пабег у глыб двара.

— Ты вызначыў, каму належыць Кропка вяртання?

— Вызначыў, — адказаў Інф-1. — Дзяўчыне! — і паказаў позіркам на шосты пад'езд дома, ля якога яны сядзелі на лаўцы. Памаўчаў і дадаў: — Можаш сам праверыць.

— Я ўжо праверыў! — і на твары Інфа-2 з'явілася здзіўленне. — Сапраўды, захавалася Кропка вяртання. Яе не паспела сцерці іхняя цывілізацыя. Не разбурыла. Нам трэба сюды, — паказаў рукою на расчыненыя дзверы шостага пад'езда. — Сёмы паверх, сто дзевяноста сёмая кватэра.

— Тады рушым, пабачым, што ў гэтай Кропцы?

І яны адначасова падняліся з лаўкі. І ў той жа момант гэта ўжо былі не хлопцы ў пацёртых джынсах і футболках, а дзве малюпасенькія зорачкі, якія, як два яркія светлякі, павольна заплылі ў ранішні паўзмрок пад'езда.

Праз некалькі хвілін на сёмым паверсе ля дзвярэй сто дзевяноста сёмай кватэры стаялі двое: маладыя людзі, апранутыя ў элегантныя цёмна-сінія гарнітуры, пры шэрых з сіняй палоскай гальштуках і з букетамі ў руках. У кожнага — па пяць белых ружаў. Адзін з іх націснуў на кнопку званка. Потым яшчэ і яшчэ раз. Дзверы кватэры адчыніліся, на парозе з'явілася ўжо немаладая жанчына з прыемным тварам. Яна прабегла хуткім позіркам па маладых людзях, якія, відавочна, спадабаліся ёй, і прамовіла ўзрушана:

— Божа, пры якім парадзе ў такі ранні час! Маладыя людзі, вы, напэўна, памыліліся кватэрай. Сёння шняй раніцай мы нікога не чакаем да сябе з такімі прыгожымі ружамі, — і яна пасміхнулася прыязнай усмешкай.

— Мы да Насці, — сказаў адзін з маладых людзей. — Яе паклікаць сюды можна?

І нешта змянілася на твары ў жанчыны. Яна ўжо не пасміхалася. Позірк стаў халодным і калючым.

— Насця — школьніца, — як адрэзала жанчына. — У яе не можа быць нічога агульнага з вамі! Вам жа ўжо недзе пад дваццаць пяць! І, увогуле, перад прыходам тэлефанаваць трэба. А Насця яшчэ спіць! — І пасля гэтай тырады жанчына з сілай захлопнула дзверы.

— Гэтага мы з табою не прадугледзелі, Інф-1. У рэалаў усялякая падазронасць выклікае агрэсію. І не толькі падазронасць. Яны па прыродзе сваёй — агрэсіўныя. Страціўшы Кропку вяртання, яны страцілі вышыню і прыгажосць свайго духу.

Інф-1 пацепнуў плячыма, быццам гарнітур, які быў на ім, раптам стаў цесны.

— Для чаго ты прыдумаў гэты маскарад? Мы маглі б матэрыялізавацца ў нейкую іншую форму. Я быў бы згодны стаць малекулай ці атамам.

— Мне цікавы кантакт з дзяўчынкай Насцяй, — адказаў Інф-2. — У яе ж павінна быць нейкая рэакцыя пасля таго, як наша інфармацыя прайшла праз Кропку вяртання. А яна прайшла. Я ўпэўнены! Мой інфармацыйны паток пра вялікага князя Казіміра, пра Міхайлушку Жыгімонтавіча і валожынскіх князёў Сухтаў абудзіў усё тое, што ў ёй было. У дзяўчынкі павінна з'явіцца шмат пытанняў, на якія ёй цяжка будзе знайсці адказ. Рэалы — не толькі з бялковай масы, яны поўныя самых розных пачуццяў.

— Кантакту яшчэ трэба дачакацца. Ты ж чуў, — дзяўчына зараз спіць.

— Пачакаем, але, зразумела, не тут, — і ў гэты ж момант Інф-2 пачаў змяншацца ў памерах, пакуль увогуле не знік. А Інф-1 у выглядзе ўсё таго ж маладога чалавека пачаў спускацца па лесвіцы ўніз. Але з пад'езда яны выйшлі разам, дакладней, вылецелі, як і ўляцелі, у выглядзе дзвюх маленькіх бліскучых зорачак.

Зорачкі падплылі да каштана, які рос недалёка ад пад'езда, і зніклі ў яго густой кроне. Праз хвіліну пачуўся голас Інфа-1:

— Што ты прапануеш? Сярод гэтага шырокага лісця можна адпачыць.

— Я не стаміўся, — адказаў Інф-2. — Матэрыялізацыя мяне наблізіла да рэалаў. Я хачу на ўсё паглядзець так, як глядзяць яны. Гэты мікрараён — толькі частка вялікага горада, які рэалы называюць Мінскам. Мы можам наведаць іншыя яго часткі і вярнуцца сюды ў любы момант.

Зорачкі пакідалі густую крону каштана, а ў сто дзевяноста сёмай кватэры Ганна Цімафееўна, маці дзяўчыны Насці, можна сказаць, на хаду дапівала каву. Яна стаяла ў пярэднім пакоі і назірала, як Генадзь Пятровіч — ейны муж, а Насцін — бацька, нешта запіхваў у партфель і абуралася:

— Ёй толькі чатырнаццаць споўнілася! І раптам — такія дарослыя хлопцы. Я гэтага не разумею! Яшчэ і васьмі не было, а яны пры парадзе з ружамі! Яна ў

мяне дачакаецца! Я ёй учыню допыт! Хацела адразу падняць, але пашкадавала. Хай адаспіцца перад школай. Ёй паслязаўтра на заняткі!

Генадзь Пятровіч ківаў галавою, маўляў, з кожным тваім словам цалкам згодны, і ўсё запіхваў і запіхваў нешта ў партфель. А з дзвярэй аднаго з пакояў гэтай вялікай чатырохпакаёвай кватэры вытыркнулася ўскудлачаная галава Ігара — іхняга сына:

— Ма-а, ты ў сваім амплуа! Настку пашкадавала, не стала будзіць. А мяне падняла... А мне, дарэчы, не паслязаўтра, а заўтра — ва універсітэт. Няўжо нельга сысці на працу моўчкі?

— Аднясі кубак на кухню!

Ганна Цімафееўна тыцнула сыну ў рукі кубак і выйшла з кватэры, — знерваваная і незвычайна ўзбуджаная. За ёю заспяшаўся і Генадзь Пятровіч.

У вялікім горадзе пачатку дваццаць першага стагоддзя пачалося звыклае жыццё...

## АСОЧНІК ДАНІЛА АТРЫМАЎ ЗАГАД ВЫЕХАЦЬ НА ЛОВЫ. ДЗЯЎЧЫНКА НАСТУСЯ ПАЧУЛА ГОЛАС

Шырокія вароты з тоўстых дубовых дошак асочнік Даніла адчыняў з цяжкасцю. Настуся бачыла гэта праз адхіленую фіранку і шкадавала бацьку, і наракала на халодныя дажджы, што ўжо цэлы тыдзень густа церушылі, ад чаго вароты разбухлі і пацяжэлі. Ёй таксама хацелася выбегчы ў двор, але палохалі два вершнікі, што былі за варотамі.

Вароты, нарэшце, расчыніліся, і калі вершнікі, саскочыўшы з коней, увайшлі ў іх, Настуся адышла ад акна. Хутка адчыніла дзверы ў сенцы, каб чуць, што за людзі да іх прыехалі. А сама легла на драўляны ложак з высокімі спінкамі і замерла. Яна чула, як рыпіць журавель, потым бразнула цяжкое драўлянае вядро ля студні. «Відаць, коней пояць, — прамільгнула думка, — і пра нешта гавораць». Але словы ледзь даляталі да яе слыху, гучалі неразборліва. І яна хутка паднялася з ложка, прыадчыніла фортку акна, адкуль адразу пацягнула восеньскай стынню, потым зноў легла. Галасы сталі больш гучнымі. Хтосьці з прыезджых людзей жартаваў:

— Ці не мякіну, Даніла, ты тут ясі? Вароты ледзь адчыніў, гэтак знясіліўся!

— Не-е, мякіну не ем, — адказаў бацька. — Мякіна для скаціны, што стаіць у хляве, а я ў хаце жыву. — І па бацькавым голасе Настуся зразумела, што ён успрыняў гэты жарт, як абразу.

Гэта адчуў і той, хто так няўдала пажартаваў, таму паспяшаўся супакоіць бацьку:

— Ведама, што ў хаце, Даніла! Хіба я што кепскага сказаў? — І тут жа запытаўся: — А з чыёй ласкі хату гэтую займеў?

— Дык жа не ва ўласнасць! На чужой зямлі стаіць, а свае дзве валокі я засяваю, хіба ты гэтага не ведаеш? — І бацька на момант змоўк. Потым зноў пачуўся яго голас. Ён яшчэ не ведаў, з якой мэтай прыехалі да яго гэтыя вершнікі, таму паспяшаўся давесці: — Але я спраўна за хату плачу. Вельмі спраўна. І не малое дзякла ў мяне.

— Яшчэ спраўней плаціць будзеш, калі на ловы паедзеш. Нам загадана табе наказаць, і каб абавязкова быў.

— Хто загадаў?

— Гаспадар наш — князь Міхайлушка.

— А дзе ж ловы маюцца быць? — запытаўся бацька.

— У Чорнай пушчы пад Мерачам. Табе загадана ў Мерачы быць праз тыдзень.

— У той пушчы свае асочнікі, да таго ж чуў, што адтуль ласі чамусьці сыходзяць, — далятаў да Настусі бацькаў голас. — А ловы, я разумею, калі ўжо нават мне загадалі, з удзелам Гаспадара нашага вялікага ладзяцца. Маладзенькі каралевіч на лася паляваць любіць.

— Пра сахатага цяпер гаманы ніякай няма, — але гэта ўжо быў іншы голас і даносіўся ён трошкі зводдаль, дзе зноў бразнула драўлянае вядро. — Вялікі князь Казімір тура ўпаляваць хоча.

«Відаць, коней з калодзежнага вядра пояць, цэбра ў бацькі не папрасілі», — падумала Настуся і якраз у гэты момант адчула, што яе моцна пацягнула на сон. Павекі бы наліліся, сталі ўмомант цяжкімі. Але сну не было. Млявасць разлілася па ўсім целе, вочы заплюшчваліся. І пачула яна яшчэ адзін голас, які, як ёй здалося, сыходзіў не ад акна і не ад дзвярэй, а з яе самой:

— У 1445 годзе на беразе Нёмана, недалёка ад Мерача ў Чорнай пушчы павінен адбыцца замах на гаспадара Вялікага княства Літоўскага шаснаццацігадовага

Казіміра — сына ляшскага караля Ягайлы. Забойства ўжо рыхтуецца. Яго павінны здзейсніць падчас ловаў, калі вялікі гаспадар выедзе на паляванне. І здзейсніць яго павінны валожынскія князі Сухты. Але задума замаху належыць не ім, а князю Міхайлушку Жыгімонтавічу, што княжыць у Клецаку. Ён хоча сам заняць вялікакняжы пасад.

Голас раптоўна абарваўся, як раптоўна і ўзнік. Павекі яшчэ былі цяжкія, але Настуся адчувала адно — як моцна б'ецца яе сэрца. Яна падхапілася, ускочыла з ложка, абхапіла галаву рукамі, быццам скроні пранізаў страшэнны боль, зашаптала сама не свая: «Я чула Голас, мне быў знак. На вялікага князя Казіміра рыхтуецца замах. Ён павінен здзейсніцца падчас ловаў. Заб'юць вялікага князя. Заб'юць!» Настуся падбегла да акна, зачыніла фортку, сцепанулася ад холаду. Потым кінулася ў сенцы, памкнулася да дзвярэй, каб выбегчы на ганак, і спынілася. З двара чуўся бацькаў голас:

— Маладняк яшчэ не падужэў, рана на ловы.

— Гэта не наша воля, Даніла. Гэта воля гаспадара вялікага нашага. Ды і маладняк з турыцамі хто чапаць будзе?!

— Я жонку пяць тыдняў таму назад пахаваў. Дачка ў поўныя леты яшчэ не ўвайшла, — адгаворваўся бацька. Яму, відавочна, не хацелася ехаць на ловы, і ён, як мог, пераконваў прыезджых людзей у немагчымасці сваёй прысутнасці на іх. — Вы ж, во-о, бачыце, хата стаіць на водшыбе, лічыце, што ў лесе, дык як мне дачку адну тут пакінуць?

— Раней жа неяк пакідаў?

— Дык я ж сказаў, жонку пахаваў.

— Суродзічы нейкія знойдуцца, а то і з сабою дачку возьмеш, — настойвалі на сваім людзі, пасланыя князем Міхайлушкам. — Там да кухараў яе на дзень-другі ўладкуеш. А калі раптам Гаспадар наш вялікі яе прыкмеціць, дык і ў пакоі, да пакаёвак сваіх можа ўзяць. Яны з дачкі тваёй добрую пакаёўку зробяць, многаму яе навучаць.

«Не едзь, татачка, на ловы, не едзь. Адмаўляйся як можаш. Мне знак быў, — зашаптала Настуся. — Я Голас чула. Бяда там лютая здарыцца».

— Дык, можа, усё ж у хату зойдзеце, — запрашаў Міхайлушкавых людзей бацька. — Настуся мая ўпраўная, на стол хутка падасць.

— Ехаць нам трэба, Даніла. Яшчэ трох асочнікаў мы не абвясцілі. А ты збірацца пачынай. Гаспадаровы людзі не любяць вычэкваць. У цябе тыдзень часу на зборы.

Глуха затупацелі коні на падворку, зарыпелі цяжкія вароты. Настуся вярнулася ў хату, села на лаву, што стаяла ўздоўж сцяны, загаласіла ўпаўголаса:

— Ой, мамачка мая, мамачка! Адгукніся да нас, забарані татку на ловы ехаць! Яшчэ і яго заб'юць. Усіх асочнікаў перабіць могуць! — і хутка ўскочыла з лавы, пачуўшы, што бацька ўжо адчыняе дзверы ў хату. Кінулася яму насустрач. Тут жа зразумела, што бацька, відаць, пачуў яе галашэнне, таму што адразу з парога сказаў:

— Каго гэта там заб'юць? Трэба, дачка, на ловы ехаць. Трэба! Без мяне тура яны не ўпалююць. Людзям гаспадаровым ужо давялі, што я ў Чорнай пушчы кожны корч ведаю. Мяне туды бралі яшчэ тады, калі вялікі князь Жыгімонт на ловы выязджаў. Я ведаю, дзе старыя лоўчыя ямкі. Але адну цябе тут не пакіну, са мною паедзеш. Хмары рассунуліся. Цяпер ужо доўга сонца будзе. На мароз возьмецца, пляхота гэтая сцягнецца.

— Хай сабе і пляхота, — Настуся адвярнулася ад бацькі і пайшла да акна, паглядзела, ці добра зачыніла яго, ціха запыталася: — А на гаспадарцы каго пакінеш, калі мяне з сабою возьмеш?

— Братавай сваёй накажу, каб прыйшла. Яна не адмовіць. На яе ўласнай гаспадарцы дзеці ейныя ўправяцца. Дарослыя ўжо.

Настуся кінула хуткі позірк на бацьку і зноў адвярнулася да акна. Нейкі момант маўчала, потым прамовіла зусім ціха, амаль шэптам:

— Нядобрае на тых ловах будзе. Я на ложку ляжала і Голас пачула. Знак мне быў. Князь Міхайлушка, што ў Клецаку сядзіць, ліхі намер мае. Замах падчас ловаў на гаспадара вялікага — маладога Казіміра — рыхтуе, і князі Сухты яго здзейсняць, валожынскія. Падбухторыў ён іх. Напэўна, заб'юць яны вялікага Гаспадара. Я праўду кажу. Голас такі чула.

— Сціхні! Зараз жа сціхні. Як прамовіць такое магла! — І бацька, бы захліпнуўся. Але хутка перамяніў тон голасу. — Што ты чула, дочачка? Што ты чуць магла? — сказаў ён разважліва і з пяшчотай. — Людзі Міхайлушкавы да нас прыязджалі. Так і сказалі, што князь Міхайлушка загадаў, каб я на ловах быў. Там і

іншыя асочнікі будуць. Адусюль з'едуцца. Хто ж без нас тыя ловы наладзіць? А ты штось нядобрае ў сваю галовачку ўзяла. Насланнё нейкае на цябе, мая ты дочачка, насунулася. Ды пра такое нават вымавіць страшна! Ты і думаць не мажы.

— Таму я і адвярнулася, каб ты не бачыў майго перапуду, каб яшчэ больш не злякаўся. Я ўся дагэтуль трасуся. Ліхаманка мяне б'е. А голас мне быў, татачка. Быў! — Настуся ўсхліпнула. І ў гэты яе ўсхліп уплёўся тэлефонны званок, які загучаў далёкім рэхам...

## НАСЦЯ СПРАБУЕ РАЗГАДАЦЬ СВОЙ СОН. ЯЕ ЦІКАВІЦЬ, ЦІ ІСНАВАЎ НАЯВЕ КНЯЗЬ МІХАЙЛУШКА ЖЫГІМОНТАВІЧ?

Насця, што жыла ў вялікім дзевяціпавярховым доме ў сто дзевяноста сёмай кватэры на сёмым паверсе, расплюшчыла вочы. Яе невялікі пакой залівала яркае сонечнае святло. «Колькі ж гэта ўжо часу? Як доўга я спала!» — падумала яна.

— Ма-ам, ну што ты ўсё звоніш ды звоніш? — даляцеў да яе слыху з пярэдняга пакоя братаў голас. — Я кашулю прасую. Прас перагрэецца! Спіць яна яшчэ. Спіць.

— Ужо не сплю, — крыкнула Насця, зразумеўшы, што размова ідзе пра яе. — Што хоча мама?

— Хацела! — Брат зазірнуў у яе пакой і спыніўся ў дзвярах. — Да цябе сёння, яшчэ васьмі не было, нейкія два хлопцы прыходзілі. Не-е, маню! Гэта былі не хлопцы, а маладыя мужчыны, вельмі імпазантныя і беспардонныя! Так сказала маці. Іншымі словамі — нахабныя! І абодва — з ружамі.

Насця тут жа перавярнулася на жывот, прыўзняла галаву, запытальна паглядзела на брата.

— Калі гэта розыгрыш, дык табе не ўдасца мяне разыграць. У мяне няма знаёмых маладых мужчын. Ты ўсё прыдумляеш, Ігар! — сказала яна з абурэннем, але ў голасе не было злосці. У ім чулася нейкая пакеплівая мяккасць. Так звычайна размаўляюць з меншымі па ўзросце, хаця Ігар быў на гадоў восем старэйшы за яе. — Мама, напэўна, хацела, каб я пайшла ў магазін, а ты ёй сказаў, што я яшчэ сплю. Тады яна папрасіла

цябе, і ты прыдумаў нейкіх мужчын, каб я зараз жа перапэлефанавала маці і, зразумела, у магазін яна скажа ісці мне. У выніку — ты займаешся сваімі справамі, а я — цягаю прадукты.

— Ну ты і даеш, Настка! Якая складаная камбінацыя! — Ігар паблажліва заўсміхаўся. — Я да такога не дадумаўся б! Мужчыны сапраўды прыходзілі. І ты можаш здагадацца, як да гэтага паставілася наша маці. Яна была такая разгневаная, што ажно я прачнуўся! На-астка, ды ў мяне ж там прас! — закрычаў брат і рынуўся да свайго пакоя.

Насця ўзяла мабільны тэлефон, які ляжаў побач на тумбачцы ля настольнай лямпы і стоса сшыткаў, пачала набіраць нумар.

— Ма-а, Ігар сказаў... — і яна не дагаварыла. Без пярэчанняў выслухала ўсё, у чым яе папракала маці. Потым заўсміхалася і даволі лагічна пачала абвяргаць усё пачутае.

— І ты адразу вырашыла, што гэтыя маладыя мужчыны прыйшлі менавіта да мяне, ага-а?! Ды ў нашым доме, ведаеш, колькі Насцяў! Толькі ў суседнім пад'ездзе — тры! Ды яшчэ і над намі жыве рыжая такая... Яна таксама Насця. Касіркай у магазіне на Голубева працуе і каля яе заўжды хтосьці круціцца. Ты не падумала пра тое, што мужчыны маглі памыліцца кватэрай? Якая сувязь, ма? Якая сувязь! Ты думаеш, пра што такое ты гаворыш?! — яна на імгненне змоўкла і дадала, уздыхнуўшы: — Ну, не паглядзелі яны на нумар кватэры! Не паглядзелі. Толькі і ўсяго! Няўважлівымі аказаліся тыя мужчыны, былі вельмі занятыя нейкімі сваімі думкамі. Выйшлі з ліфта і адразу пачалі званіць у дзверы. Дык ты з-за іх няўважлівасці цяпер мяне даставаць будзеш? Пакуль, ма-а, я не магу больш усяго гэтага чуць.

Насця шпурнула мабільнік на тумбачку і паднялася з канапы. Пайшла да пісьмовага стала, села і ўключыла камп'ютэр. Але хутка яго выключыла і рушыла ў братаў пакой. Нейкае імгненне пазірала, як Ігар вешае адпрасаваную кашулю на плечкі, потым запыталася:

— Скажы, што ты ведаеш пра вялікага князя Казіміра?

— Каго-каго? — Ігар здзіўлена прыўзняў бровы. — У свеце даўно няма ніякіх княстваў.

— Дык я не пра цяперашні час. Я маю на ўвазе Вялікае княства Літоўскае, дзе ён у пятнаццатым стагоддзі быў вялікім князем.

Пасля гэтых сваіх слоў Насця села на канапу, а Ігар стаў вешаць плечкі з кашуляй у шафу.

— Ты сама і адказала на сваё пытанне, — павярнуўся ён да яе. — Перад самай школай забіваеш сабе галаву абы-чым. Князя нейкага згадаць табе схацелася. Лепш папрасуй мне джынсы.

— Джынсы ніхто не прасуе, а-а... А пра князя Казіміра я сон бачыла. Ты ж будучы псіхолаг-аналітык, да чаго б гэта? Самога Казіміра я не бачыла, але на яго рыхтаваўся замах. Дзяўчынцы, якую, дарэчы, як і мяне, звалі Насцяй, быў знак. Яна пачула Голас, што рыхтуецца забойства вялікага князя.

— О-о, Настка, і мне зараз нешта чуецца, — весела сказаў Ігар. — Але гэта называецца здаровым рэфлексам. Есці хачу. Давай лепш пап'ём кавы з бутэрбродам. Я яшчэ не снедаў.

Ён зачыніў шафу і паклаў на дошку, дзе прасаваў кашулю, джынсы. Але прасаваць іх не стаў, пайшоў да дзвярэй.

— Не, ты пачакай, каву мы пасля пап'ём, — Насці хацелася затрымаць яго. — Спачатку растлумач, да чаго такі сон?

— Пойдзем на кухню, там растлумачу.

Ігар выйшаў, і Насця падалася за ім. Ёй была незразумелая яго абыякавасць да такога таямнічага яе сну, пра які ёй самой хацелася гаварыць і гаварыць, спрабуючы разгадаць яго.

— Посуд у ракавіне нямыты. Сёння твая чарга мыць, — сказала яна, калі яны зайшлі на кухню, Насця паставіла на стол два кубачкі. Ігар уключыў электрачайнік і пачаў наразаць батон.

— Бяры, намазвай маслам, — сказаў ён Насці. — Толькі не рабі бутэрброды з каўбасой, а лепш з сырам, — і стаў насыпаць каву ў кубачкі, раз-пораз пазіраючы на Насцю, пакуль, нарэшце, не запытаўся: — Ну, і які ж знак быў той дзяўчынцы з твайго сну, якую звалі, як і цябе, Насцяй? Голас з неба, так сказаць, з вышэйшай інстанцыі? Ну, а калі забойства, дык гэта ўжо нейкі дэтэктыў.

— Забойства там ніякага не было, а толькі папярэджанне. Голас папярэдзіў дзяўчынку.

Ігар засмяяўся і сказаў пакепліва:

— Ціка-авы голас... Пра замах ён паведаміў не саму вялікаму князю, каб той прыняў адпаведныя меры, не каму-небудзь з яго падначаленых, а нейкай дзяўчынцы. І што ж яна зрабіла пасля гэтага?

— Нічога, — Насця наліла кіпеню ў кубачкі: сабе і Ігару. Села за стол. — Дзяўчынка пра замах расказала свайму бацьку. А сам сон? Ты растлумач, што ён можа значыць для мяне?

І яна на момант уявіла тое, што бачыла ў сне, — вялікі пакой у прасторнай сялянскай хаце, беднай, але чыста прыбранай. Згадала і дзяўчынку, што стаяла ля акна, і яе бацьку — у парозе. Адзначыла для сябе, што яны былі апрануты ў адзенне, якое цяпер можна пабачыць хіба што ў музеях і то — толькі на нейкіх ілюстрацыях.

Ігар піў з кубачка каву і, прысаджваючыся да стала, пачаў тлумачыць Насці яе сон.

— Ведаеш, Настачка, — сказаў ён. — Любы сон — гэта падсвядомае жаданне. І калі б, скажам, такі сон пабачыў наш бацька, я адразу яму сказаў бы, што яго чакае павышэнне па службе. Князь — гэта ўлада, вышыня, якая міжволі праектуецца на таго, хто гэты сон бачыць. І калі ў сне хтосьці намерваецца здзейсніць замах на гэтую вышыню, на князя, значыцца, бацьку трэба было б праявіць асцярожнасць. Быць пільным. Яго чакае службовае павышэнне, і нехта хоча не дапусціць гэтага. Зайздросціць, ці лічыць, што бацька не варты павышэння.

— Але ж сон бачыў не бацька, а я, дык якое ў мяне можа быць службовае павышэнне, калі я нідзе не працую, а толькі вучуся?

— Любое, — хутка адказаў Ігар. — Ты паслязаўтра ідзеш у школу і табе там адразу могуць сказаць, што цябе пасылаюць на нейкую алімпіяду, дзе ты можаш перамагчы і атрымаць ганаровы дыплом ці нават грашовае ўзнагароджанне, або каштоўны падарунак. Сярод тваіх аднакласнікаў абавязкова знойдзецца нехта, хто схоча, каб ты не пайшла на алімпіяду. У кожнага чалавека ёсць не толькі сябры, але...

— І ворагі, — падхапіла братавы разважанні Насця. — Толькі ж цяпер нідзе ніякіх алімпіяд не будзе. Яны, звычайна, праводзяцца вясною. — І яна зноў згадала свой сон. У памяці кароткім кадрам прамільгнуў драўляны

ложак, дзяўчынка — на ім. Яна нават згадала той Голас, што быў для дзяўчынкі знакам: «...Ён павінен здзейсніцца падчас ловаў, калі вялікі гаспадар выедзе на паляванне, і здзейсніць яго павінны валожынскія князі Сухты. Але задума замаху належыць не ім, а князю Міхайлушку Жыгімонтавічу, што княжыць у Клецаку».

Насця даела свой бутэрброд, паставіла кубачак і талерку ў мыйніцу, потым зноў села за стол.

— Майго сну ты не разгадаў, — сказала яна Ігару. — Дык, можа, скажаш, якіх ты князёў Вялікага княства Літоўскага ведаеш акрамя Казіміра, пра якога пачуў ад мяне?

— Ну перастань, Настка, — адмахнуўся брат. — Дай спакойна паесці. Лепш зрабі мне яшчэ адзін бутэрброд, я павінен хутка сысці ва універсітэт. Знаёмая адна з Клецка на наш факультэт паступіла, дык дапамагу ёй уладкавацца ў інтэрнаце.

— З Клецка? — перапытала Насця. — Тады яна, напэўна, павінна штосьці ведаць пра князя Міхайлушку Жыгімонтавіча, які калісьці княжыў у Клецку, вядома, калі верыць майму сну. Ты ў яе распытай пра яго.

— Ды не буду я ў яе нічога распытваць. Ты проста ашалела ад свайго сну! Чаму яна павінна нешта ведаць пра нейкага, як ты сказала? — звярнуўся ён да Насці.

— Міхайлушку Жыгімонтавіча. У маім сне менавіта ён намерваўся здзейсніць замах, але, вядома, не сам.

— Усё, Насця. Я наеўся! — Ігар устаў з-за стала. — Не трэба мне больш ніякага бутэрброда. І пра князёў сваіх больш мне нічога не кажы. Гэта — не гісторыя, разумееш, не які-небудзь летапіс, а ўсяго толькі — твой сон! У сне бывае ўсё, што хочаш! Нават каралеву англійскую можна прысніць, а лепш — сябе на месцы каралевы.

Ігар пайшоў з кухні, і Насця сказала яму ўслед:

— А пра Міхайлушку Жыгімонтавіча ты ўсё ж распытай у сваёй знаёмай.

— У Інтэрнет залезь, — азірнуўся Ігар. — І посуд за мяне памый. Я табе вечарам тысячу рублёў за гэта дам.

Насця не паспела яму сказаць, што яна ўжо была ў Інтэрнеце пасля таго, як пагаварыла па тэлефоне з маці. І акрамя самай павярхоўнай інфармацыі пра вялікага князя Казіміра — сына польскага караля Ягайлы, нічога больш не знайшла, што нейкім бы чынам

тычылася яе сну. Там нічога не было і пра замах, які рыхтаваўся на вялікага князя ў яе сне. І яна падумала: «А, можа, сапраўды, увесь гэты сон — толькі дзікая фантазія майго мозгу. Сны бываюць самыя неверагодныя і, як правіла, нічога падобнага ў жыцці не бывае. Можа, у той час, калі княжыў Казімір, ніхто і падумаць пра такое не мог, каб здзейсніць на яго замах, тым больш, што княжыць ён пачаў падлеткам? Што ён мог такое зрабіць, каб можна было думаць пра забойства?! Але, калі Казімір з яго праблемамі, якія выліліся чамусьці на іншых людзей, прысутнічаў у яе сне, ці прыдумаў бы яе мозг яшчэ і нейкага Міхайлушку Жыгімонтавіча, пра якога яна ніколі нічога не чула? Яго нават у Інтэрнеце няма! Ды і сама тая дзяўчынка? Яна нікога з яе знаёмых ёй не нагадвала, а ў снах звычайна сняцца толькі добра знаёмыя людзі, з якімі кантактуеш, ці некалі даводзілася кантактаваць.

«Не, я павінна ўсё-ткі дазнацца, быў калісьці ў нашай гісторыі такі князь — Міхайлушка Жыгімонтавіч, ці не, — сказала яна сама сабе. — І калі быў, дык гэта ўжо будзе не сон, а штосьці вельмі блізкае да праўды. Вось толькі для чаго мне гэта ўсё прыснілася?»

З гэтымі думкамі яна пачала мыць посуд. І толькі калі ёй пазваніла яе лепшая сяброўка — аднакласніца Волечка, што жыла ў тым жа самым доме ў суседнім пад'ездзе, да яе раптам дайшло: «Энцыклапедыя! Калі гэты князь Міхайлушка Жыгімонтавіч існаваў, ён павінен быць у энцыклапедыі». І Насця пачала расказваць Вользе свой дзіўны сон, а потым запыталася:

— У тваіго бацькі, напэўна, ёсць энцыклапедыя, ён жа ў цябе універсітэцкі выкладчык? — і затым папрасіла: — Пашукай там гэтага Міхайлушку. І, увогуле, давай праз паўгадзіны сустрэнемся ля майго пад'езда. Да мяне сёння нейкія хлопцы прыходзілі з букетамі, не паверыш, яшчэ васьмі раніцы не было. Паспрабуем вылічыць, хто на такое здатны. Маці мая ледзь прытомнасць не страціла, яна іх прыняла за дарослых мужчын. А я ў гэты момант спакойненька спала. Ну, дык праз паўгадзіны?..

## ЗНАК — ПРАЗ КРОПКУ ВЯРТАННЯ, ЯКУЮ НЕ РАЗБУРЫЛА ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ

Вольга ўжо чакала Насцю, калі тая выйшла са свайго пад'езда. Сядзела на той самай лавачцы, якую на досвітку аблюбавалі Інф-1і Інф-2.

— Я ўжо хвілін дзесяць тут, — незадаволена сказала яна Насці, як толькі тая села побач. — Ты як заўжды затрымалася, — і тут жа выказала сваё меркаванне, хто мог прыходзіць да Насці раніцай, быццам толькі і чакала яе, каб хутчэй пра гэта сказаць: — Да цябе, відаць, Панасюк з Кузьмічом забягалі з букетамі. Яны меліся кветкі купляць для Галіны Іванаўны. Ты ж ведаеш, яна ў ліпені ўжо на пенсію пайшла, дык вырашылі яе дома павіншаваць з пачаткам навучальнага года. Можа, яна ім сказала вельмі рана прыйсці, бо куды-небудзь з'язджае. Вось яны і зайшлі, каб і ты разам з імі пайшла. Пагадзіся, Галіна Іванаўна была не горшай настаўніцай.

Насця згодна заківала галавой і адказала, думаючы пра іншае:

— Ага-а, мая маці не ведае Кузьміча і Панасюка! Ці, можа, яны так змяніліся за лета, што яна іх прыняла за дарослых мужчын? Панасюк і Кузьміч мне ўчора тэлефанавалі. Яны і табе тэлефанаваць будуць. Галіна Іванаўна папрасіла, калі мы ўжо так хочам, сёння вечарам да яе прыйсці. Ну, а ў энцыклапедыі ты знайшла гэтага Міхайлушку Жыгімонтавіча?

— Ніякага Міхайлушкі там няма, — без усялякай цікавасці канстатавала Вольга. — Адны Міхайлавы! Не, ёсць яшчэ адзін Міхайлоўскі.

— Ма-ама! Мама! — закрычаў у гэты момант хлопчык гадоў двух, якога зусім яшчэ маладая жанчына садзіла ў каляску недалёка ад той лавачкі, дзе сядзелі Вольга з Насцяю. — Паглядзі, вунь там дзве залатыя мушкі!

— Якія мушкі, Уладзечка? Дзе ты бачыш тых залатых мушак?

— Там, — паказаў хлопчык пальчыкам у бок лавачкі. — Яны ляцяць з дрэва.

Жанчына азірнулася. На імгненне затрымала позірк на дзяўчынках і хутка пакаціла каляску з хлопчыкам, які ўжо весела размахваў нейкаю цацкаю, у супрацьлеглы ад лавачкі бок.

Вольга з Насцяю таксама азірнуліся, маўляў, што ж там за залатыя мушкі маглі ляцець з дрэва, і пабачылі за лавачкай, амаль за сваімі спінамі, двух хлопцаў, якія

былі апранутыя ў элегантныя цёмна-сінія гарнітуры, да якіх надзвычай пасавалі шэрыя з сіняй палоскай гальштукі. Можна было падумаць, што хлопцы вярталіся з нейкага святочнага мерапрыемства. Глядзеліся вельмі імпазантна і самавіта.

— Вы тут толькі што згадвалі ліцвіна, князя Міхайлушку Жыгімонтавіча, — сказаў адзін з іх, і гэта быў Інф-2. — Дык я магу расказаць пра яго, — ён з цікавасцю разглядваў Насцю. Яна збянтэжылася пад гэтым адкрыта-цікаўным позіркам і перавяла свой пагляд на другога хлопца.

— Я таксама шмат чаго ведаю пра Міхайлушку, — адразу ж адазваўся той і паспяшаўся дадаць: — Мы... Мы — гісторыкі. Нядаўна скончылі гістфак. Я асабіста абараняў дыплом па Вялікім княстве Літоўскім. Пра любога князя што заўгодна магу расказаць, хоць пра Казіміра, хоць пра Міхайлушку, — і ў гэты момант яго мозг атрымаў сігнал ад Інфа-2: «Ты перабіраеш, Інф-1. Размаўляй з дзяўчынкамі без гістарычнага фанатызму, спакойна і натуральна». І Інф-2 тут жа звярнуўся да Насці:

— Вы не супраць, калі мы сядзем побач?

Насця пасунулася бліжэй да Вольгі. Хлопцы селі.

— Сёння цудоўны сонечны дзень, — сказаў Інф-1. — Нават не верыцца, што ўжо апошнія дні лета. Заўтра нам трэба выходзіць на працу. Адпачынак наш скончыўся.

Насця павярнулася да яго, але яе апярэдзіла Вольга з пытаннем:

— Вы хацелі нам расказаць пра Міхайлушку? Як гэта яго па-бацьку, Насця, неяк нязвыкла?

— Жыгімонтавіч.

— Міхайлушка — сын вялікага князя Жыгімонта, які даводзіўся родным братам Вітаўту Вялікаму, — сказаў Інф-2 і працягнуў: — Жыгімонт сеў на сталец княства Літоўскага з дапамогай польскага караля Ягайлы пасля Свідрыгайлы.

Вольга пырснула смехам:

— Якое смешнае прозвішча — Свідрыгайла!

І тут у шостым пад’ездзе моцна грукнулі ўваходныя дзверы. На ганак выйшаў Ігар — Насцін брат і, як толькі пабачыў яе на лавачцы, спыніўся. На яго твары з’явілася грымаса, штосьці накшталт зларадннай усмешкі. Маўляў, а вось, напэўна, і тыя маладыя мужчыны пры поўным парадзе, як казала маці. І ён гучна гукнуў Насцю:

— Настка, падыдзі да мяне, — і, калі сястра падышла да яго, загаварыў зноў знарок гучна, каб яго чулі тыя, што засталіся сядзець на лавачцы. — Ты мне сказала, што выйдзеш на хвілін дваццаць, каб сустрэцца з Вольгаю, дык адкуль раптам узяліся гэтыя хлопцы? А іх жа нават дзесяцікласнікамі нельга назваць, ды і на студэнтаў яны не падобныя. Можа, якія менеджэры па маладзенькіх дзяўчатках?! Штосьці я не згадваю, каб калі сустракаў іх у нашым мікрараёне. А, можа, гэта тыя самыя, што да нас раніцай завітвалі?

— Ігар, як ты можаш! — зашаптала Насця. — Мне сорамна за цябе. Гэтыя хлопцы — гісторыкі. Ты не паверыш, але мой сон падобны да праўды. Толькі, чаго мне гэта ўсё прыснілася? Князь Міхайлушка Жыгімонтавіч сапраўды калісьці існаваў, — і яна замоўкла, пабачыўшы на Ігаравым твары вялікае здзіўленне. Ён ажно раскрыў рот, і вочы яго ледзь не выкочваліся. Але тое, што так моцна ўразіла Ігара, працягвалася нейкае адно імгненне, таму што выраз яго твару зноў змяніўся, і Ігар сказаў з лагоднай усмешкай мяккім голасам:

— Ну добра, Настка. Я абавязкова запытаюся ў сваёй знаёмай пра… Пра князя Міхайлушку. А ты хутчэй вяртайся на лавачку да Вольгі. Там ужо цябе, напэўна, зачакаліся вашы хлопчыкі. Мне падабаюцца інтэлігентныя маладыя людзі. Гэта што, твае аднакласнікі? Дык запрашай іх у кватэру, навошта тусавацца на лавачцы?!

І гэтыя яго словы моцна здзівілі Насцю. «Што з ім адбываецца? — падумала яна. — Толькі што казаў адно, а цяпер — зусім іншае». Яна азірнулася і здзівілася яшчэ больш. На лавачцы побач з Вольгай сядзелі два падлеткі ў пацёртых джынсах і ў модных футболках. Іх можна было прыняць за яе аднакласнікаў. «А дзе ж тыя, што толькі што сядзелі на лавачцы? — Насця не верыла сваім вачам. — Куды яны маглі так хутка падзецца? Не маглі ж яны выпарыцца! І адкуль узяліся гэтыя?» Яе здзівіла і тое, што Вольга размаўляе з імі так, як быццам яны ўжо даўно сядзяць на лавачцы. Але пачуццё вялікага здзіўлення тут жа пакінула яе, бы і не было яго. І пра тых маладых людзей, што нядаўна назваліся гісторыкамі, яна таксама раптоўна забылася. Быццам хтосьці сцёр іх з яе памяці, як і ўсю размову з імі.

Ігар памахаў ёй рукою, ён ужо збег з ганка. І Насця таксама рушыла да лавачкі. Калі сыходзіла з пры-

ступак, бачыла, як адзін з падлеткаў пацягнуў рукаў футболкі, быццам ён быў для яго залішне кароткім. А, можа, і сапраўды гэтак было, так хутка Інф-1 і Інф-2 змянілі свой воблік, што нехта з іх памыліўся памерам футболкі. Гэта быў Інф-1 і, як толькі Насця села побач з Вольгаю, ён адразу запытаўся ў яе:

— А пра якога гэта Міхайлушку згадваў той хлопец на ганку?

— Гэта не хлопец, а яе брат, — хутка адказала за Насцю Вольга. — А Міхайлушка — князь. Магчыма, ён жыў калісьці ў Клецку. Але гэта дакладна яшчэ невядома.

Насця ўважліва паглядзела на Інфа-1 і звярнулася да Вольгі, не звяртаючы ніякай увагі на падлеткаў:

— Дык ты і сапраўды нічога не знайшла пра яго ў энцыклапедыі?

— Я ж табе сказала, там — адны Міхайлавы. А Міхайлушка, калі такі існаваў на самай справе, можа быць у нейкай спецыяльнай, дзе адна гісторыя, — сказала Вольга. — Але ў бацькі такой няма.

— А ці ёсць такая ўвогуле? Мы якраз сёння былі ў гістарычным музеі, там — амаль ніякіх экспанатаў няма, а вы хочаце спецыяльную гістарычную энцыклапедыю, — адазваўся Інф-2 і позіркам паказаў на Інфа-1. — Вунь ён вучыцца ў гімназіі з гістарычным ухілам. Калі што цікавіць з гісторыі, пытайцеся ў яго.

— Насця, ты лепш раскажы ім свой сон, — папрасіла Вольга. І да яе слоў далучыўся і Інф-2.

— Канечне, раскажы, — сказаў ён. — Я — вялікі спец па снах. Усё ў ім раскладу па палічках, — і пасля гэтых яго слоў усе дружна засмяяліся, маўляў, які спец з падлетка!

Насця пачала расказваць свой дзіўны сон, не ведаючы, што вялікім дзівам было і тое, што ні яна, ні Вольга не памятаюць, што ўсяго толькі некалькі хвілін таму назад побач з імі сядзелі зусім іншыя маладыя людзі. Але сцёртае з памяці застаецца сцёртым. Затое Насця нічога не забылася са свайго сну. Расказвала падрабязна, з дэталямі. Нават пра драўлянае вядро згадала, з якога паілі сваіх коней вершнікі ад Міхайлушкі, а калі дайшла да Голасу, які прагучаў Настусі з яе сну прарочым знакам, нечакана павярнулася да Інфа-2 і сказала:

— Ну-тка, давай, скажы мне што-небудзь.

Інф-2 насцярожыўся, а потым пасміхнуўся неяк загадкава, быццам загадзя ведаў, для чаго Насці трэба пачуць яго голас, і сказаў, паказаўшы на Інфа-1:

— Адчуваю, што гэтаму гімназісту, будучаму гісторыку, вельмі хочацца зараз апынуцца пад тым Мерачам у Чорнай пушчы.

— О-о! — ускрыкнула Насця. — Той голас быў вельмі падобны да твайго. Такі ж трошкі глухаваты, усё роўна, як праз дынамік які гучаў.

І ўсе зноў дружна засмяяліся.

— Гэта што, знак асаблівай увагі да мяне? — запытаўся Інф-2. Але Насця бы й не пачула яго пытання, пачала расказваць далей свой сон. І як толькі скончыла ўвесь распавед, звярнулася да Інфа-2:

— Ну, калі ты вялікі спец па снах, дык разгадвай. Я ўжо чула адно тлумачэнне ад свайго брата.

— Мне трэба доўга думаць, каб разгадаць, — адказаў Інф-2. — Я хутка не ўмею, — і тут жа запытаўся. — А чаго гэта так напалохаў асочніка Данілу і дзяўчынку Настусю знак, які быў ёй?

— Вось ён — будучы гісторык, самі сказалі, — паказала на Інфа-1 Вольга. — А ты, — кіўнула на Інфа-2, — напэўна, будзеш дэтэктывам. Ты ўжо тут распачынаеш сапраўднае следства. Адкуль Настка можа ведаць, чаго яны спалохаліся?

— Ды якое следства, Вольга, — адмахнулася Насця. — Як можна не разумець элементарнага! Пачуй нехта, як Настуся казала бацьку пра замах на вялікага князя, і чутка імгненна разляцелася б па ўсім наваколлі. Яна магла б дайсці да князя Міхайлушкі. І калі б замах сапраўды рыхтаваўся, іх бы проста забілі Міхайлушкавы людзі, — асочніка Данілу і Настусю. А мог бы які слых дайсці і да самога вялікага князя Казіміра, тады б ім учынілі допыт. А потым таксама маглі б забіць. — І пасля гэтых сваіх слоў Насця павярнулася да Інфа-1. — Слухай, калі ты вучышся ў гімназіі з гістарычным ухілам, дык у цябе і нейкая літаратура гістарычная павінна быць?

— Ёсць! — ажывіўся Інф-1. — Ну, зразумела, падручнікі. Яшчэ слоўнікі розныя, і нават томік беларускіх летапісаў і хронік.

— Цудоўна! — Насця імкліва паднялася з лавачкі. — Тады мы ўсе зараз жа ідзём да цябе. Пачнём штудзіраваць летапісы і, магчыма, там знойдзем нешта пра князя Міхайлушку.

— Быў ці не быў? — засмяялася Вольга.

— Думаю, што быў, — задумліва адказала Насця. — Мне чамусьці здаецца, што гэты мой сон праўдападоб-

ны. Я падсвядома гэта адчуваю нейкім невядомым пачуццём. Ніяк не магу зразумець, што гэта такое? Прыгнечанасць? Тамленне духу?

Інф-1 і Інф-2 пераглянуліся. Узнікла доўгая паўза, якую кожная з дзяўчынак вытлумачыла па-свойму. І першым яе парушыў Інф-2:

— Мы жывём не ў гэтым мікрараёне, — сказаў ён. — Далекавата адсюль, а потым… Потым… у нас білеты на футбол.

— І нам ужо трэба спяшацца, — падтрымаў Інфа-2 Інф-1. — Нам прыемна было пасядзець з вамі. Можа, заўтра яшчэ пабачымся. Тут у нас сябра жыве. Мы штодня да яго прыходзім.

Інф-1 і Інф-2 падняліся з лавачкі, кіўнулі дзяўчынкам у знак развітання і пайшлі, агінаючы каштан.

Вольга таксама ўстала з лавачкі.

— Я думаю, ні ў якай гімназіі ён не вучыцца, — сказала яна Насці. — Як толькі ты прапанавала пайсці да яго, каб паглядзець летапісы, адразу абодва рэціраваліся. Бадзяюцца тут розныя.

Насця азірнулася. Падлеткаў не было на сцежцы, што вяла да аркі, праз якую можна было выйсці з двара.

— Ды яны проста нейкія рэкардсмены па хадзе, — і тон яе голасу быў насмешлівы. — Ты толькі паглядзі, як хутка зніклі ў арцы.

Але, калі б яна падняла галаву ўверх, дык між густога голля каштана магла б заўважыць дзве маленькія зорачкі, якія прыцiснуліся да магутнага ствала. І гэтыя зорачкі нячутна абменьваліся думкамі, назіраючы, як дзяўчынкі, яшчэ трошкі затрымаўшыся ля лаўкі, разыходзяцца па сваіх пад’ездах.

— Я цяпер вельмі добра разумею Вялікага Інфа, — сказаў Інф-2. — Мы заўсёды выступалі супраць жорсткасці рэалаў і пры любой магчымасці спяшаліся яе прадухіліць. Але ён не мог нас пасылаць у пятнаццатае стагоддзе з інфармацыяй пра бессэнсоўны замах на маладзенькага вялікага князя. Нас бы там не пачулі, не схацелі б пачуць з-за боязі. А вось у знакі, якія ім пасылаюцца, яны верылі. І мы падалі ім гэты знак праз Кропку вяртання, якую ты, Інф-1, змог знайсці ў гэтай рэальнасці.

Сонца кацілася да свайго заходу, і ўжо скупыя на цяпло промні стаміліся лашчыць лісце каштана. А двор дзевяціпавярховага дома, наадварот, ажываў. Людзі вярталіся дамоў з працы, спяшаліся ў свае пад’езды, нагружаныя сумкамі і пакетамі з прадук-

тамі: хлебам, малаком, сырам, сасіскамі… Дзе-нідзе з вокнаў выплываў пах смажанай цыбулі. Ля дзіцячай пясочніцы стаялі маладыя маці, пазіраючы, як за нізенькай агароджай з вядзерцамі ды маленькімі шуфлікамі бавяцца іхнія дзеці…

— Да тых рэалаў у тым часе дайшоў наш знак, — адгукнуўся Інф-1. — А да гэтых? Мы працягваем пасылаць ім папярэджанні.

— Гэтыя нас ужо даўно не чуюць. Яны імкліва ідуць непрадказальным шляхам да свайго канца. Адсутнасць Кропкі вяртання не дазваляе ім азірнуцца, вярнуцца да сваіх вялікіх вытокаў, да сваёй гісторыі, і тым самым пазбегнуць многіх памылак. Яны не памятаюць таго, што было, і наноў усё паўтараюць і паўтараюць. Распачынаюць знішчальныя войны, забіваюць адно аднаго, змагаюцца за ўладу, не разумеюць і баяцца прыроды, з якой даўно жывуць не ў гармоніі. Глыбакадумна разважаюць пра магчымасць новага сусветнага патопу, не ведаючы, як пазбегнуць таго ці іншага катаклізму. Рэалы не ўтрымалі ніводнай сваёй цывілізацыі, якія амаль бясследна знікалі пад пяскамі часу.

— Зірні на рэалку, што падыходзіць да пад'езда, — нечакана сказаў Інф-1. — Гэта Насціна маці. Мы павінны сцерці з яе памяці нашу ранішнюю сустрэчу. Калі сядзелі там, унізе на лавачцы, я мімаходзь счытваў тое, пра што дзяўчынка думала. Яна непакоілася, што як толькі маці вернецца дамоў, дык адразу згадае пра наш ранні візіт, пачне даставаць яе непатрэбнымі пытаннямі і папрокамі.

Па сцяжынцы, што вяла да пад'езда, сапраўды ішла Насціна маці. Але яна ўжо не цікавіла прышэльцаў. Ні тады, калі паставіла на лавачку пад каштанам цяжкі пакет, каб трошкі перадыхнуць, ні тады, калі адчыняла дзверы пад'езда. Інф-1 сцёр з яе памяці іх спробу сустрэцца з Насцяй раніцай і звярнуўся да Інфа-2 з нечаканай прапановай.

— Мне спадабаліся твае словы наконт таго, што я хацеў бы апынуцца пад Мерачам у Чорнай пушчы, — сказаў ён. — Ты іх прамовіў, калі дзяўчынка пазнала твой голас. Мы маглі б зрабіць гэтае падарожжа і пабыць на месцы тых далёкіх падзей.

— Цяпер — гэта ўжо не Мерач, а горад Меркіне на поўдні Літвы, — адказаў Інф-2. — Тая вялікая дзяржава даўно не існуе. На нашым зваротным шляху яшчэ будуць дзяржаўныя межы. Навошта лішні раз трапляць

у лакатары? А ў падарожжа мы можам адправіцца. Скажам, у той горад, дзе тады княжыў Міхайлушка Жыгімонтавіч. Магчымасць нашага з'яўлення тут завязвалася там амаль шэсць стагоддзяў таму назад.

Інф-1 маўчаў. І гэтае маўчанне Інф-2 успрыняў як згоду наведаць старажытны горад Клецк.

## НЛА НАД КЛЕЦКАМ

Насця вярталася дамоў даволі позна. Вольга не змагла пайсці да Галіны Іванаўны, таму што бацькі нечакана паслалі яе да бабулі, якая жыла ў аддаленым мікраграёне. А з Панасюком і Кузьмічом да любімай настаўніцы Насці давялося ісці адной. «Добра зрабіла, што пайшла, — думала яна. — Галіну Іванаўну любіў увесь клас, а кветкі перад школай занеслі толькі мы ўтраіх. Ва ўсіх астатніх пазнаходзіліся прычыны, каб не пайсці, але Галіна Іванаўна і нам траім была рада».

Насця зірнула на вокны сваёй кватэры. У іх яшчэ гарэла святло, але ў кватэру яна зайшла асцярожна, быццам баялася некага пабудзіць. Хацела ціхенька прайсці ў свой пакой, як раптам з кухні пачуўся голас ейнай маці — Ганны Цімафееўны:

— Настка, я джэм слівовы зварыла. Ідзі пакаштуй, толькі без гарбаты, а то не заснеш.

— У Галіны Іванаўны я цэлых два кубкі выпіла, — адазвалася Насця і прайшла на кухню. — Пірог у яе быў смачны. Яна рэцэпт брала з той кулінарнай кнігі, якую мы ёй падарылі перад канікуламі, бо ўжо тады ведалі, што ёй хутка на заслужаны адпачынак, хай застанецца ў яе памяць пра наш сёмы клас.

— Знайшлі што дарыць жанчыне перад выхадам на пенсію. Вось вам, Галіна Іванаўна, цяпер толькі і стойце ля пліты цэлымі днямі! Лепш бы касметыку якую купілі.

— Мам, а чаго ты адразу пра пліту?! Яна можа дома каму-небудзь урокі даваць. Рэпетытары заўсёды патрэбны.

— Па замежных мовах, калі ласка... Тут я нічога не магу сказаць, — пагадзілася Ганна Цімафееўна і тут жа слушна заўважыла. — А па геаграфіі каму патрэбны той рэпетытар? Тут звернуцца да камп'ютэра, у Інтэрнет палезуць. Ты хоць перадала ёй ад мяне прывітанне? Мне яна пада-

балася як настаўніца, — і яна паставіла на стол талерачку з джэмам. — Пакаштуй, ці не занадта салодкі атрымаўся?

Насця села да стала. Джэм намазала на кавалак булкі і надкусіла.

— З булкаю смачна, — яна паморшчылася. — З чаго ты ўзяла, што ён салодкі? Па-мойму, хутчэй кіславаты, але, калі размяшаць у вадзе, будзе добры сіропчык!

Ганна Цімафееўна ўздыхнула, маўляў, дачакалася! Дачка ўжо і пахваліць не можа. Адвярнулася да вялікай міскі, у якой варыла джэм, і пачала накладваць яго ў слоік. Насця даела булку з джэмам і сказала неяк нерашуча:

— Джэм, у прынцыпе, і не кіславаты. Ма-а? А я ўсё чакаю, чакаю, калі ты пра хлопцаў тых зноў згадаеш, што раніцай да нас прыходзілі. Па тэлефоне на мяне накінулася, а цяпер маўчыш.

Маці павярнулася да яе, і ў вачах Ганны Цімафееўны застыла пытанне:

— Не разумею, пра якіх гэта хлопцаў ты кажаш? Хто да нас раніцай прыходзіў? Адкуль ты гэта ўзяла?

— Як хто? Ма-а, ты што не памятаеш?! Два хлопцы з кветкамі! Мяне прасілі паклікаць, яшчэ васьмі раніцы не было. Ты ж як ненармальная на мяне крычала, ледзь мабільнік не расплавіўся.

Усталявалася доўгая паўза. У Насціным паглядзе было недаўменне, а Ганна Цімафееўна вырашыла абурыцца:

— Мала таго, што з джэмам не дагадзіла! Табе, бачыш ты, ён кіславаты, дык яшчэ і ненармальнай хочаш мяне зрабіць. Першы раз чую пра нейкіх хлопцаў!

І Насця нічога не паспела ёй адказаць. Таму што адразу пасля слоў Ганны Цімафееўны са свайго пакоя выглянуў Ігар і закрычаў:

— Іншапланецяне! Хутчэй ідзіце сюды... Над Клецкам іншапланецяне! Па тэлевізары паказваюць у апошніх навінах.

Насця падхапілася з табурэткі, кінулася ў Ігараў пакой. Не засталася на кухні і Ганна Цімафееўна.

— Дзе яны? — Насця ўтаропілася ў тэлевізійны экран, на якім на фоне блакітнага неба плылі два зіхоткія шары. Іх бы можна было прыняць за дзве поўні, калі б не ружова-ліловае ззянне, якое яны выпраменьвалі. Ад гэтага ззяння немагчыма было адвесці вачэй, яно прыцягвала. І замірала дыханне, быццам нейкая сіла стрымлівала яго, заклікаючы да спакою, маўляў, не трэба хвалявацца, ад вас не патрабуецца ніякіх эмоцый.

Шары то падніmaліся, то апускаліся, але нязменна трымаліся разам вельмі блізка адзін ад аднаго. «Неапазнаныя аб'екты даволі доўга кружылі над Клецкам, — гучаў голас дыктара. — Іх нават удалося зняць на аматарскую камеру, але ніхто не можа даць ніякага пэўнага тлумачэння гэтай з'яве. Вядома адно: гэтыя шары — не зрокавы падман. Іх назіралі літаральна ўсе жыхары Клецка і падобны феномен бачылі ўпершыню. А зараз пасля кароткай рэкламы вас чакаюць навіны спорту...»

— Тэлевізійнікі спрацавалі класна, — сказаў Ігар. — Атрымалі здымкі і адразу — на экран, а вось наконт феномена я не згодны. Гэта — не феномен, а суровая рэчаіснасць. Чалавецтва даўно жыве пад прыцэлам...

— Ага-а, зараз дагаворышся, — сказала маці. — Я думала і праўда — іншапланецяне!

— А хто ведае, што ў тых шарах? Хто ведае?! Ды колькі пра такое цяпер пішуць! — расхваляваўся Ігар. — Многія лічаць, што за намі назіраюць... Хто назірае? Адказ адзін: іншапланетны розум! Мы — як падвопытныя!

На кухні зазвінеў мабільнік, і маці хутка выйшла з пакоя.

— Шкада, што не ў Мінску з'явіліся гэтыя шары, — сказала Насця. — Я хацела б такое пабачыць. Па тэлевізары ўсё ж не тое ўражанне. Па «Дыскаверы», бывае, штосьці накшталт гэтага паказваюць, але там неапазнаныя аб'екты, як талерачкі.

— Не заўсёды, — запярэчыў Ігар. — Я нядаўна ў нейкай газеце чытаў, што неапазнаны аб'ект формаю нагадваў гурок. Яго лётчыкі заўважылі і павярнулі самалёт насустрач гэтаму аб'екту, а адтуль выпусцілі зялёны прамень — і самалёт пачаў гарэць.

— Хто выпусціў?

— Гэтага ніхто не ведае, Настка. Давай, заўтра пра ўсё пагаворым, — і ён узяў мабільнік, які ляжаў на крэсле.

Але тут у пакой зноў увайшла маці, зірнула на экран тэлевізара, дзе ўсё яшчэ ішлі спартыўныя навіны.

— Бацька таксама глядзеў, — сказала яна. — У тое, што гэта нейкія неапазнаныя аб'екты, не паверыў. Сказаў, што дзеля сенсацыі зрабілі, каб выклікаць цікавасць да тэлеканала. Вам прывітанне перадаў.

— А дзе бацька? — запыталася Насця. — Хіба ён не дома?

— У Брэсце бацька, — адказаў Ігар. — У камандзіроўку раніцай паехаў. Ты, Настка, не жывеш жыццём

сям'і, — і паглядзеў на маці. — У вас там што, джэм? Мне трэба патэлефанаваць.

— Пачакай, Ігар, — Ганна Цімафееўна ажывілася, вочы яе блішчэлі. — Я вось што ўспомніла. У мінулым годзе летам супрацоўніца адна наша з мужам з дачы вярталіся. Ехалі на сваёй машыне… Дарога, лес, слупы прыдарожныя. І раптам перад лабавым шклом шар вялізны з'явіўся, чырвона-вогненны. Муж ейны імгненна затармазіў. Сядзелі, перапуджаныя, глядзелі… А шар палётаў-палётаў перад шклом і знік. Паехалі яны далей і тут жа, за павароткаю — аварыя! Машына, якая іх абагнала, калі яны стаялі, назіраючы за шарам, у трактар урэзалася. Во-о, дзіва! Супрацоўніца казала, што гэта іх Бог уратаваў, — шар паслаў, каб затрымаў іх. Інакш бы яны маглі ў той трактар урэзацца. Відаць, трэба было быць той аварыі, але не яны павінны былі ў яе трапіць. Кожнаму сваё наканавана і ў нейкі пэўны час.

— Ты ўжо містыку, ма-ам, якуюсь расказваеш. Настка не засне. Але калі пачала ўжо, дык і я раскажу… Ад аспіранта аднаго нашага чуў. Ён яшчэ школьнікам быў, калі здарыўся той выпадак. Сядзеў ён, глядзеў тэлевізар вечарам, і раптам у расчыненыя балконныя дзверы ўляцеў маленькі блішчасты шарык. Ён думаў, — шаравая маланка. Але шарык быў, як з вады, вельмі падобны да мыльных бурбалак, пераліваўся ўсімі колерамі вясёлкі і лётаў-лётаў па пакоі, быццам вывучаў нешта ў ім. А потым да шафы падляцеў і нейкім чынам ушчаміўся, улез праз шчыліну ў зачыненых дзверцах шафы. А праз нейкі момант — бабах! Дзверцы шафы расчыніліся, і з яе выйшла жанчына, апранутая ў сукенку яго маці. І нават, не зірнуўшы на яго, спакойна выйшла з кватэры праз дзверы, як усе людзі выходзяць. Яму тады ніхто не паверыў, палічылі, што ён прыдумаў усё, але той матчынай сукенкі ў шафе не аказалася…

— Неверагодна, — прашаптала Насця.

— Канечне, неверагодна. Думаю, што і не паверылі яму толькі таму, што такое вытлумачыць немагчыма, — і Ігар нецярпліва перакінуў мабільнік з рукі ў руку. Яму хацелася, каб маці і Насця як мага хутчэй пакінулі пакой.

— Звані ўжо, — сказала маці. — Пайду на кухню, як ты сказаў, да джэму, — і выгляд у яе быў задумлівы. Ігараў расповед зрабіў на Ганну Цімафееўну моцнае ўражанне.

І калі яна выйшла, Насця позіркам паказала на мабільнік. Запыталася:

— Той сваёй знаёмай з Клецка, якой сёння дапамог у інтэрнаце ўладкавацца, тэлефанаваць будзеш? Пра НЛА над Клецкам раскажаш? — і раптам спахапілася, успомніла, пра што яго прасіла ўдзень. — А ты распытаў у яе пра Міхайлушку Жыгімонтавіча?

Ігар не сеў, а проста ўпаў у крэсла, і на ягоным твары з'явілася грымаса пакутніка.

— Ну ты даеш, Настка! Адчапіся, нарэшце, са сваім Міхайлушкам! Я два тыдні не бачыў знаёмую дзяўчыну, і ты думаеш, у нас не было пра што пагаварыць акрамя гэтага Міхайлушкі? Ну ўсё. Ідзі. Я хачу застацца адзін. Зачыняй дзверы.

Насця зрабіла выгляд, што пакрыўдзілася, незадаволена надзьмула губы і, моцна ляпнуўшы дзвярыма, пайшла ў свой пакой. І калі б яна зайшла ў яго некалькімі хвілінамі раней, то магла б пабачыць, як у расчыненую фортку ўляцелі дзве маленькія зорачкі і прыляпіліся да сцяны пад падаконнем. Яна нават магла б пачуць знаёмы ёй голас:

— Інф-1, я расчысціў канал Кропкі вяртання ў рэалкі і ўвёў у яго асноўную інфармацыю. Калі хочаш, можаш давесці ўсё да канца. А я пранікну ў суседні пакой, паспрабую пашукаць Кропку вяртання ў яе брата. Гэты рэал таксама яшчэ вельмі малады, яна не паспела цалкам разбурыцца, нейкія рэшткі ад яе павінны застацца.

І адна з зорачак адразу пасля гэтых слоў згасла, бы і не было яе пад падаконнем. А Насця, зайшоўшы ў свой пакой, пачала рыхтавацца да сну. Яна думала пра загадкавыя шары над Клецкам і шкадавала, што ёй ніколі не давялося пабачыць штосьці накшталт гэтай з'явы. «Калі гэта ўсё-ткі прышэльцы з іншых светаў, — задавала яна сама сабе пытанне, — дык чаму не ідуць на кантакт з людзьмі?» І адказу на яго ў яе не знаходзілася.

## ВЯЛІКІ КНЯЗЬ КАЗІМІР ЗАПРАШАЕ НАСТУСЮ Ў ТРОКІ

У Чорнай пушчы пад Мерачам на прагалах шамацела сухое лісце, і ўжо голыя кроны дрэў не шумелі, а гучна гулі пад ветрам, які раскалыхваў і з сілай шкуматаў голле. Асочнік Даніла мацаў гонкі ствол ужо немаладога дрэва і дзівіўся:

— Глядзі ты, тут у вас і граб расце, кара гладкая, хоць пісьмёны на ёй пішы. А я нешта і не згадаю, каб калі граб тут бачыў.

— Хутка на Валовую паляну выйдзем, там наўкол яе што ні дрэва, то граб, і ўсе такія ж гонкія, — адазваўся мужчына гадоў сарака, мерачанскі асочнік Тамаш. — Месца там чыстае, без хмызу. На мой розум, дык там памост ладзіць трэба. Паляна вялікая, будзе месца і для людзей, і для коней.

— А што вашы асочнікі скажуць, якія да Слімаковай грэблі пайшлі? — запытаўся Даніла. Ён пагаджаўся і не пагаджаўся з меркаваннем Тамаша, таму што сказаў: — Тут месца для ловаў сапраўды някепскае. Прагалаў многа. А з другога боку, лоўчая ямка замалая, і праход да яе кароткі. Старыя ямкі дарма не захавалі. А галоўнае, ці ўдасца звера паўз паляну прагнаць? А тым жа, што будуць сядзець на памосце, схочацца тура ўгледзець.

Яны стаялі на адкрытым лясным прагале. І, падобна, адпачывалі пасля доўгай хады па няпростых пушчанскіх сцежках, на якіх найчасцей можна сустрэцца не з чалавекам, а з дзікім зверам. Асочнікі скрыжоўвалі рукі і раз-пораз ляпалі сябе па плячах. Грэліся. Яшчэ толькі бралася на мароз, стаяў лёгкі прымаразак, але даймаў пранізлівы, халодны вецер.

— Там, куды пайшлі нашы асочнікі, лоўчая ямка добрая, — сказаў Тамаш. — Але ж каля грэблі вадапой блізка. Туды ходзяць і турыцы, і цяляты. А нам адзінца з лежбішча падняць трэба. Вунь, — махнуў рукою, — у гушчары гэтым яго і знойдзем. А ямку падкапаць можна, грабары яшчэ сёння могуць сюды прыйсці.

Дзесьці далёка ад таго месца, дзе яны стаялі, загучаў паляўнічы рог. І на сасне, што расла зводдаль, замітусілася вавёрка, заскакала з галіны на галіну, пудка азіраючыся наўкол. Даніла нейкі момант назіраў за ёю, потым сказаў:

— А калі без ямкі, га-а? — ён запытальна паглядзеў на мерачанскага асочніка. — Тура мы паднімем і пагонім, а там ужо справа не наша. Бачыў, колькі княжычаў розных панаехала? Ля Нёмна, нібы кірмаш які! Толькі ў Мерач прыехалі і адразу — ігрышчы! Каб хто збоку глянуў, не сказаў бы, што на ловы з’ехаліся. Вялікі князь Казімір усю дружыну з сабою ўзяў. І паненак — не злічыць. І ўсіх трэба будзе размясціць на памосце. Пад яго паляў шэсць ці хопіць?

— Палі паставяцца, хоць шэсць, хоць восем, — адказаў Тамаш і ўвесь насцярожыўся. Нават перастаў грэцца. Напружана пазіраў у бок гушчару, дзе раскідзістае кустоўе сплялося ў непраходную сцяну і адкуль, быццам свечкі, вытыркаліся вяршаліны маладых дрэў. Тамаш перавёў позірк на Данілу, але насцярога не сыходзіла з яго твару. — Нешта ж пана Яна Гаштольта не бачыў там, — махнуў рукою ў той бок, адкуль чуліся гукі паляўнічага рога. — Яго цяжка не прыкмеціць. Звычайна ценем ля вялікага гаспадара нашага Казіміра ходзіць.

— Чуў, што ён у Троках застаўся, — адказаў Даніла. — А на ловы з гаспадаром вялікім сына свайго паслаў — Андрушку Гаштольтавіча, які тут князем вялікім апекавацца будзе.

У гушчары затрашчала ламачча. Потым зноў і зноў пачуўся гучны трэск, як быццам нехта прадзіраўся праз зараснік.

— Мо ў цябе там ваўкоўня? — пасміхнуўся Даніла. — І хтось здабычу забраць хоча. На нас не выходзіць, крадзецца, як і належна злодзею.

— У гушчарах я не раблю пастак. Звер безаглядны, дзе прастору многа. Гарэзаваць пачне і ўжо пра пасткі не думае, — Тамаш замоўк і прыслухаўся. Далёка ўверсе пад ветрам гула крона граба. — Наконт княжычаў ты добра заўважыў, — зноў адазваўся ён да Данілы. — Моладзь адна з’ехалася. А раз’юшаны тур — не для маладога вока. Прамарудзіць хто, не пацэліць добра ці ў час за дрэва не захінецца, дык і вантробаў потым не збярэш, барані Божа. Рагамі распатрошыць, капытамі затопча. — Тамаш зноў насцярожыўся і прапанаваў Данілу. — Ты як глядзіш? Можа, у гушчар завернем? Пабачым, што там за людзі. Ты спінаю стаіш, а я ўжо траіх прыкмеціў.

— Можна і пабачыць, — сказаў Даніла. — Я ж нездарма запытаўся ў цябе пра ваўкоўню.

І яны разышліся ў розныя бакі. Тамаш, прыгінаючыся, адразу нырнуў у густое кустоўе, а Даніла рушыў да маладых прысадзістых елак. Рукамі адводзіў голле ад твару і, не прайшоўшы нават двух дзесяткаў крокаў, стаў, як укопаны. Між нанесенага, пэўна, з прагалу, сухога лісця напаўляжаў узброены чалавек, які адразу ж паклаў руку на піку і прабурчэў хрыпла:

— Ідзі адсюль, чалавеча, а не то зараз піку пад рэбры як усаджу, — але ў голасе не чулася варожасці, хутчэй была абыякавасць, быццам ведаў, па якой

справе тут, у пушчы, Даніла, і хацеў проста прагнаць яго, напалохаць.

Даніла міжволі на крок адступіў назад, слізгануў хуткім позіркам па твары незнаёмца, і яму здалося, што ён ужо дзесьці бачыў гэтае аблічча. А незнаёмец зноў адазваўся:

— Ды пажартаваў я пра піку, а табе ўжо і мову адняло. Мы тут месца гэтае агглядалі, па слядах турыных хадзілі, а цяпер, во-о, адпачываю. Прылёг.

— Бачу, што не працаю заняты. Ляжы, — і Даніла няспешна павярнуў назад да прагалу, маўляў, не буду перашкаджаць, калі адпачываеш. Ён ужо згадаў гэтага чалавека. Сустракаў яго на ловах у Налібоцкай пушчы мінулай зімою пад самыя Каляды. Ён пры некім з валожынскіх князёў быў, з тамтэйшых дружын. Гэта дакладна ўспомніў. Валожынцы многа дзікоў тады ўпалявалі.

На прагале Даніла спыніўся, пачаў узірацца ў кустоўе, куды падаўся Тамаш, і раптам яго як працяло. Ён згадаў словы дачкі Настусі пра знак, які ёй быў, пра намер князя Міхайлушкі Жыгімонтавіча забіць вялікага гаспадара Казіміра. «Хочацца, хочацца на вялікакняжы пасад Міхайлушку, — думаў асочнік. — Відаць, вялікую крыўду затаіў. Але рукамі валожынцаў учыніць ліхое задумаў. Таму і ляжыць тут гэты чалавек з дружын валожынскіх. Час вычэквае. Пэўна, што гэтак, бо для чаго месца ловаў агглядаць, калі для такой справы асочнікі ёсць? Ды і не адзін ён тут. Тамаш трох прыкмеціў. І вось гэты сказаў: «Мы тут месца агглядалі, па слядах турыных хадзілі». А што цяпер хадзіць па слядах тых, калі тура ўсё роўна не пагоніш, хай сабе і высачыш. А Міхайлушку ж князь вялікі да сябе прыклікаў і бацькаўшчыну яму ягоную ўсю аддаў. Ды мала, відаць, Міхайлушку гэтага, ой, мала!» — і Даніла азірнуўся на трэск ламачча. Подбегам да яго скіроўваў Тамаш і, калі наблізіўся, увесь сцепануўся.

— Сцюдзёна, Даніла, га-а? Чаго на прагал вярнуўся?

Даніла маўчаў, не хацеў расказваць пра валожынца, бо той жа ўсё чуе. Ляжыць і прыслухоўваецца, пра што яны тут гамоняць. Таму праз доўгую паўзу на пытанне адазваўся пытаннем:

— Дык мы што? Цяпер на Валовую паляну пойдзем?

— Не, — крутнуў галавою Тамаш. — Трэба, каб грабары прыйшлі, а то ямку не паспеюць падправіць. Хай як след падкапаюць. У Мерач вяртацца трэба.

І яны рушылі назад па прагале, раз-пораз азіраючыся. І толькі, калі ўжо адышліся на далёкую адлегласць ад таго граба, пад якім нядаўна стаялі, Даніла прыцішыў хаду.

— Чуеш, Тамаш, — сказаў ціха. — Пушча штосьці нядобрае ў сабе тоіць. Чалавека з дружын валожынскіх я там бачыў, і не адзін ён там, ты ж ведаеш, — кіўнуў галавою ў той бок, адкуль ішлі. — А што ж цяпер у пушчы рабіць? Чаму яны не ў Мерачы, калі на ловы з князямі сваімі прыехалі?

— Як ты добра ўсё скеміў, Даніла, — адказаў мерачанскі асочнік. — Там шмат узброеных людзей. І, дай Божа мне памыліцца, гэтыя людзі сапраўды не дзеля палявання сабраліся. Яны зрабілі выгляд, што мяне не заўважылі, і я сябе не стаў паказваць. Торбы вялізныя бачыў, харчы з сабою прыхапілі. Відаць, з начлегам у схове сваім мяркуюць быць. А чаго хаваюцца, ды якраз недалёка ад паляны Валовай? — І ён зусім прыцішыў голас. — У Мерачы я ведаю людзей, якія хутка князю Андрушку Гаштольтавічу пра гэтых валожынцаў данясуць. А там ужо ён вырашыць, што рабіць. Як давядзецца, дык і ты пацвердзіш, што людзей узброеных бачыў, — і Тамаш крануў Данілу за плячо. — Ну, падналяжам, дзень цяпер кароткі.

Недалёка ад іх, у нізінцы, трывожна закрычала птушка і паднялася над дрэвамі.

— Крумкача спудзіў хтосьці, — сказаў Даніла і павярнуў на вузкую сцежку, на якую ўжо збочыў Тамаш. Яму вельмі карцела расказаць мерачанскаму асочніку пра знак, які быў Настусі, і штосьці стрымлівала. Гэтыя ўзброеныя людзі ім здаліся падазронымі, але ж ні Тамаш, ні ён сам услых не сказалі, у чым іх можна падазраваць. І калі цяпер ён раскажа Тамашу пра тое, што пачула дачка праз Голас, які ёй быў, дык усё і звяжацца. Гэтыя людзі ў пушчы якраз дзеля таго, каб здзейсніць намер Міхайлушкі Жыгімонтавіча. І валожынца ў адным з іх ён прызнаў, дык, магчыма, той і быў чалавекам аднаго з князёў Сухты. Усё сыходзіцца. Але ці можна даверыцца Тамашу? Невядома, як ён пра ўсё гэта раскажа людзям, якія данясуць Андрушку Гаштольтавічу пра небяспеку. Вось калі б ён сам распавёў! І Даніла не стаў расказваць мерачанскаму асочніку, які знак быў Настусі. А яны ўжо выходзілі на драбналессе. Спыніліся і агледзеліся.

— Трэба трошкі назад узяць, — сказаў Тамаш. — Кругаля мы далі, праз дубняк бліжэй да Мерача будзе.

— Ты ідзі, — адазваўся Даніла. — А мне трэба да берага Нёмана выйсці. Туды, дзе цяпер ігрышчы. З дачкою такая дамоўленасць у мяне была. Яна там пад наглядам адной пані — жонкі знаёмага шляхціца. З нашых мясцін яны, з-пад Клецака. На час ловаў у Мерачы ў сваякоў спыніліся.

— Тады табе напрамкі трэба ісці, — і Тамаш не змог схаваць незадаволенасці. Адразу спахмурнеў. — Я думаў, разам да Мерача пойдзем. Але, калі табе трэба... Ты ж толькі глядзі, будзь напагатове, можа яшчэ і сёння ў пушчу давядзецца вяртацца, — і апошнія словы ён прамовіў няўпэўнена, няверачы ў тое, што сказаў, быццам быў перакананы, што ў пушчу асочнікі больш не пойдуць.

Даніла яшчэ трошкі пастаяў, правёў позіркам Тамаша, які хутка знік у густым алешніку, і рушыў да чародак маладых бяроз, што бялелі наперадзе. За невялікім бярэзнікам быў Нёман. Да высокага ў гэтай мясціне берага ён неўзабаве і выйшаў.

Позірку адкрылася відовішча, якое рэдка калі ў гэтых мясцінах можна было пабачыць. Але нішто не дзівіла Данілу, — ні мноства карэт і звычайных брычак, ні наравістыя коні на канавязях, ні вялізныя катлы, ад якіх ішоў густы пар, — там ужо варылі і смажылі дзічыну, загадзя ўпаляваную. Ён ішоў да вясёлага стракатага натоўпу і позіркам шукаў белы кабат, падбіты аўчынай з маладога ягняці і абшыты чырвонай тасьмою, у які была апранута Настуся. Моладзь, а яе тут была большасць, тоўпілася ля невялікага ўзвышэння, якое было збітае з шырокіх негабляваных дошак. І як толькі Даніла зірнуў туды, сэрца яго забілася. «Дзесьці тут і вялікі князь Казімір са сваёю світаю», — мільганула думка, таму што на ўзвышэнні ён пабачыў вялікакняжага карліка-блазена, якога вялікі князь заўсёды вазіў з сабою. Карлік быў апрануты ў шырокі чырвоны плашч, у руках трымаў драўляны меч і гэтым мячом стараўся пацэліць у мажнога высокага чалавека ў кажуху навыварат, які строіў з сябе тура. Да кажуха быў прышыты доўгі хвост, а на галаву чалавек начапіў драўляны абручык з рагамі. На ўзвышэнні разыгрывалася паляванне на тура. І калі карліку ўдавалася пырнуць чалавека мячом, шматлюдны натоўп узрываўся рогатам...

Даніла ледзь праштурхнуўся да самага ўзвышэння, усё шукаючы і шукаючы позіркам белы кабат Настусі. Ён нават уздрыгнуў ад нечаканасці, калі пабачыў яе па другі бок, якраз насупраць сябе. Настуся пільна сачыла за тым, што адбываецца на ўзвышэнні.

Шчокі яе заружавеліся, а ў вачах колеру пераспелых вішань пабліскваді смяшынкі. «Прыгожая ліцвінка падрастае ў мяне», — падумаў Даніла. І ў яго з'явілася жаданне крыкнуць, гукнуць дачку, але ці пачуе яна яго сярод гэтай вясёлай гаманы? І ён, штурхаючыся, стаў агінаць узвышэнне, як раптам пачуўся гучны голас:

— Расступіцеся! Дарогу! Дарогу маршалку надворнаму! Расступіцеся!

Людзі пачалі расступацца, утвараючы праход. Даніла адчуў, як закалацілася сэрца: «Маршалак надворны! — апякла думка. — Гэта ж сам — Андрушка Гаштольтавіч, які тут апекуецца вялікім князем». І невядома якая сіла штурханула яго назад, да ўтворанага вузкага праходу паміж людзьмі, дзе ўжо з'явіўся, абкружаны такою ж маладою світаю, як і сам, маршалак. «Другога моманту не будзе ў мяне», — мільганула думка, і ён кінуўся да Андрушкі Гаштольтавіча. У тое ж імгненне хтосьці з акружэння маршалка імкліва ўскінуў свой меч перад Данілам, такім чынам перагароджваючы яму далейшы шлях. Але Андрушка Гаштольтавіч быў ад яго на даволі блізкай адлегласці, і Даніла ўкленчыў, загаварыў, асабліва не падбіраючы слоў:

— Я — асочнік Даніла з-пад Клецака. Маю сказаць пану, найсветламу маршалку надворнаму, што бяда вялікая ўчыніцца можа. У пушчы шмат людзей узброеных, якіх на свае вочы сёння давялося пабачыць. А дачцы маёй, Настусі, у той дзень, як загадалі праз тыдзень сюды ехаць, знак быў. Голас яна пачула, што здрадлівая рука ліхі намер мае. Найяснейшы гаспадар наш вялікі ад яе пацярпець можа, — Даніла прамаўляў гэтыя словы без перадыху, не зважаючы на тое, што вакол яго і Андрушкі Гаштольтавіча ўжо ўтваралася вельмі вузкае кола. Світа маршалка надворнага шчытна акружыла іх, не падпускаючы нікога з натоўпу.

— Здрадлівая рука, пэўна ж, некаму належыць? — і ў прыцішаным голасе маршалка надворнага чулася трывога. Ён некалькі разоў хутка азірнуўся па баках, быццам баяўся, што іх можа нехта пачуць з натоўпу. І Даніла адказаў яшчэ больш ціха:

— Вядома, належыць. Валожынскім князям Сухтам. А кіруе гэтаю рукою Міхайлушка Жыгімонтавіч, што цяпер у Клецаку на бацькаўшчыне сядзіць.

Асочнік бачыў, як Андрушка Гаштольтавіч адразу пасля яго слоў нешта зашаптаў на вуха маладому рыцару, што стаяў найбліжэй да яго, і той пакінуў світу, рынуўся ў натоўп. І тут жа да маршалка наблізіўся яшчэ адзін рыцар. Яны таксама пра нешта пашапталіся, пасля чаго ўжо некалькі Андрушкавых людзей зніклі за спінамі тых, што абступілі маршалка і Данілу.

— А дзе цяпер твая дачка, асочнік? — нарэшце Андрушка Гаштольтавіч звярнуўся да Данілы.

— Тут яна. Тут! — хутка адказаў ён. — Як толькі з пушчы вярнуўся, адразу пачаў яе шукаць. Стаяла ля ўзвышэння, дзе карлік выдурняўся.

— Прывядзеш дачку туды, дзе карэты стаяць за канавяззю, — ужо зусім іншым голасам сказаў маршалак. — Я хачу ўсё пачуць ад яе самой.

І тут жа пасля гэтых яго слоў хтосьці гучна выгукнуў:

— Расступіцеся! Дарогу! Дарогу маршалку надворнаму! Расступіцеся!

Зноў утварыўся праход між людзей, якія ўжо адчулі, што адбылося нешта непрадбачанае, што прымусіла Андрушку Гаштольтавіча зараз жа пакінуць месца ігрышчаў. Маршалак са світаю імкліва аддаляліся ад Данілы, якога ўжо ўцягнуў у свой вір узбуджаны натоўп.

— Што тут было? — запытаўся ў яго нейкі малады шляхціц. А Даніла ўжо зноў шукаў позіркам белы кабат Настусі і толькі адмахнуўся ад шляхціца, не ведаючы, што ў гэты самы момант у напрамку Чорнай пушчы ўжо імчаў не адзін дзесятак коней, і вершнікі падганялі і падганялі іх...

Даніла некалькі разоў абышоў узвышэнне, дзе ўжо не было ні карліка ў шырокім чырвоным плашчы, ні мажнога чалавека ў кажусе навыварат. Настусі на ранейшым месцы ён таксама не знаходзіў і ўзрадаваўся неймаверна, калі раптам пачуў яе голас у сябе за спінаю:

— Та-атку!

Даніла азірнуўся. Настуся спяшалася да яго ў сваім белым кабаце, і ён зноў міжволі залюбаваўся ёю.

— Татку, пані Зося чакае нас ля брычкі, — сказала яна задыхана, калі падышла да яго. — Людзі шэпчуцца, што адсюль ужо трэба з'язджаць у Мерач. Кажуць, што ловаў цяперака ніякіх не будзе. На пазнейшы час

адкладваюцца, — і яе вочы таілі ў сабе вялікую трывогу. Гэта бачыў Даніла.

— Мы паспеем да брычкі, — ён прытуліў дачку да сябе і зашаптаў, схіліўшыся да яе. — Нам спачатку за канавязі пайсці трэба. Адыдзем убок, я павінен табе нешта сказаць.

І пасля таго, як Даніла расказаў Настусі пра ўсё, што з ім здарылася, яны заспяшаліся да канавязяў. І ў кожнага была свая трывога на сэрцы. Настуся баялася, што, а раптам, калі яна раскажа маршалку надворнаму пра знак, які быў ёй, пра той Голас, што яна пачула, ён ёй не паверыць, успрыме як выдумку, за якую, канечне ж, давядзецца адказваць бацьку. А Даніла думаў: «Настусі, вядома ж, Андрушка Гаштольтаў паверыць. Ён ужо веры даў яго словам, таму і парассылаў некуды сваіх людзей. Тых валожынцаў, што ў пушчы, паловяць. Але, ці прызнаюцца, ці скажа хто з іх, з якім намерам яны там таіліся? Можа, дарэмна ён ублытаўся ва ўсё гэта, ды яшчэ і Настусю ўблытаў, бо невядома, як усё абернецца». А тым часам яны ўжо бачылі першую канавязь, збоку ад яе — рады карэт. І Даніла на нейкі момант усумніўся, што між гэтых радоў ён знойдзе Андрушку Гаштольтавіча, як раптам адна з карэт зрушыла з месца і стала імкліва набліжацца да іх па добра ўбітай шырокай сцежцы, якая нагадвала дарогу — столькі колаў па ёй праехала.

Даніла пацягнуў Настусю за руку, і яны збочылі. І тут ён пабачыў, што побач з вазаком сядзіць карлік. На ім ужо не было чырвонага плашча, але вялізны капялюш на галаве з рознакаляровымі пёркамі выдаваў у ім блазна. «Карліка з сабою ўзялі, — мільганула ў Данілы думка. — Значыцца ад'язджаюць!» І ён хацеў сказаць Настусі, што гэта карэта вялікага князя, і не паспеў. Вазак з сілаю нацягнуў лейцы, і коні спыніліся. У акне карэты мільгануў твар Андрушкі Гаштольтавіча, але з дзверцаў выглянуў не ён.

Настусін позірк сустрэўся з позіркам, у якім была стомленасць, і гэты позірк на вачах мяняўся. Яна бачыла зусім маладога чалавека, які прыязна пазіраў на яе, раздумваючы, з якімі словамі звярнуцца.

— Яшчэ да Калядаў да вас прыедуць мае людзі, — нарэшце пачула яна. — Я запрашаю цябе да сябе ў палац, той, што знаходзіцца ў Троках. Гэта будзе маёй падзякай... Аднаго з князёў Сухтаў павязалі тут, ён ва ўсім прызнаўся. Літасці просіць...

Настуся затрапятала, але не ад слоў. Яна раптам зразумела, што на яе прыязна-цікаўным позіркам пазірае вялікі князь Вялікага княства Літоўскага — шаснаццацігадовы Казімір. Кроў прыліла да яе твару, стала цяжка дыхаць, быццам нейкая сіла ціснула і ціснула на яе. Хацелася паварушыць плячыма, скінуць гэты цяжар...

## ПРА-ПРА-ПРА... ПРАБАБУЛЯ Ў ДЗЕВЯТЫМ КАЛЕНЕ

— Настка! Настка-а! Прачынайся! Ну колькі можна спаць? — Ігар з сілаю тузаў Насцю за плячо. — Ды прачніся ж!

— Ты што, звар'яцеў?! — нарэшце, падхапілася Насця. — Плячо мне вывіхнуў!

— Не вывіхнуў і не звар'яцеў. Я спяшаюся. Вадзік з дзесятага пад'езда да універсітэта мяне падкінуць можа.

Насця як падхапілася, так і сядзела на пасцелі яшчэ ўся сонная. Толькі нейкую хвіліну таму назад яна чула голас вялікага князя і, каб не Ігар, сон бы яе працягваўся. І яна сказала брату з дакорам:

— Ну, што ты ад мяне хочаш? Выходзь да Вадзіка, хай падвозіць цябе. Я зноў тую дзяўчынку Настусю ў сне бачыла, і ты перарваў на самым цікавым. Вялікі князь Казімір запрашаў яе ў свой палац. Атрымалася, што яна ўратавала яму жыццё, пачуўшы Голас звыш, які папярэдзіў, што рыхтуецца замах.

— Настка, ды ў цябе не сны, а проста нейкія серыялы! І ты дастала ўсіх сваім учарашнім сном! — ён сцішыў голас і ўжо сказаў спакойна. — Так дастала, што ўжо штосьці такое пабачыў і я.

— Што ты пабачыў? — ажывілася Насця.

— Князя Міхайлушку, пра якога ты ўвесь час учора распытвала, — і Ігар прысеў на краёк крэсла, што стаяла насупраць канапы, і голас яго загучаў таемна: — Ён знаходзіўся ўсё роўна бы ў келлі. Ляжаў на нейкім тапчане на коўдры з лямцу. Вочы заплюшчаныя, бледны ўвесь. І ў тым памяшканні быў яшчэ адзін чалавек, па-мойму, манах. Я ў гэтым кепска разбіраюся, — Ігар зрабіў паўзу і павёў далей свой расповед. — Манах штосьці наліваў з невялікага

жбана ў чашу, а потым туды яшчэ нешта капнуў з маленькай бутэлечкі. І з гэтаю чашаю падышоў да Міхайлушкі, схіліўся над ім і прамовіў:

— Зараз прымеш прычасце і табе зусім лёгка стане. Ты, відаць, нешта благое ўчыніў на Літве, калі тут у нас, на Масковіі, прыстанку шукаеш? Вашы, здараецца, як што ўчыняць, дык сюды хавацца бягуць.

Ігар зноў зрабіў паўзу, а Насця згарала з цікавасці.

— Ну, і што далей? Ты не цягні, расказвай!

— А далей, Настка, мне пачуўся шэпт: «Глядзі, глядзі... Гэта — клецкі князь Міхайлушка Жыгімонтавіч. Усё яго вярнулася да яго самога. Ён хацеў вялікага князя Казіміра са свету зжыць, а ў выніку, пакутніцкую смерць сам ад атруты прымае!» Тут манах паднёс чашу да Міхайлушкавых вуснаў, і той глынуў раз, другі... І ўсё, канец, Настка! Міхайлушка тут жа памёр. А потым і сам манах дапіў тое, што засталося ў чашы, і таксама мёртвым зваліўся, упаў на падлогу. Ты разумееш, Настка, дзве смерці за адзін сон, — і Ігар дадаў, уздыхнуўшы: — У мяне сёння нейкіх два праколы будзе!

— Як усё гэта дзіўна, — задумліва прамовіла Насця. — Мой сон сапраўды нейкім чынам на цябе распаўсюдзіўся. І такі страшны канец у гэтага князя Міхайлушкі. А ў маім сне ўсё наадварот... Ты на самым прыемным мяне пабудзіў. Мне снілася дзяўчынка Настуся, а было такое ўражанне, што гэта я сама адчуваю на сабе, што ты думаеш, даволі-такі пяшчотны позірк вялікага князя Казіміра. У мяне нават сэрца забілася моцна-моцна.

— Ну наконт сэрца, ты гэта ўжо прыдумляеш, — засмяяўся Ігар. — У сне ты не магла чуць, як яно ў цябе б'ецца.

— А ведаеш, Ігар, — Насця падсунулася на самы краёк канапы бліжэй да брата. — Па-мойму, усё, што нам бачылася ў сне, калісьці гэтак і было на самай справе. Але, якія адносіны мы маем да той дзяўчынкі Настусі, да вялікага князя Казіміра, тым больш да гэтага няшчаснага Міхайлушкі, які намерваўся здзейсніць злачынства?

Ігар пацiснуў плячыма і падняўся з крэсла.

— Цяпер тваім разважанням канца, Настка, не будзе, — сказаў ён. — Ты Вользе, сяброўцы сваёй, пазвані, з ёю і пагаворыце, што да чаго, а я пайшоў! Больш мяне сваімі князямі не даставай. О-о, — яшчэ

на момант затрымаўся ён. — Мама сёння раніцай была лагодная, салату тваю любімую зрабіла з крабавымі палачкамі. У халадзільніку знойдзеш. Пакуль, да вечара!

І як толькі Насця засталася адна, яна адразу ж схапіла мабільнік з тумбачкі і пачала званіць Вользе. Збольшага пераказала ёй свой сон, даючы волю мініцы, што збоку было падобна на рэпетыцыю нейкага маналога з п'есы на гістарычную тэму. Яна ніводнага разу не перапынілася, перажываючы яшчэ раз усё, што бачыла ў сне. І толькі ў канцы запыталася ў сяброўкі, даючы магчымасць і той штосьці сказаць наконт яе сну: «Як ты думаеш, Настуся паедзе ў Трокі, у нейкі той горад, у палац да вялікага князя?» І пакуль Насця слухала тое, што ёй адказвала Вольга, недалёка ад яе з-пад цяжкой шторы, якою было напаўзавешана акно, выпырхнулі дзве маленькія зорачкі і, павольна рухаючыся, вылецелі ў адчыненую фортку.

Дзяўчынкі заканчвалі сваю тэлефонную размову, і Насця сказала напрыканцы:

— Ну тады давай выходзь. Пасядзім трошкі. Я табе не расказала яшчэ, які сон бачыў мой брат, — і яна паклала мабільнік на тумбачку.

А калі праз паўгадзіны Насця выйшла са свайго шостага пад'езда, яна пабачыла на лавачцы двух учарашніх падлеткаў у пацёртых джынсах і модных футболках, якія адразу ж радасна заўсміхаліся насустрач ёй. І адзін з іх сказаў, — гэта быў Інф-2:

— А мы тут сядзім і думаем, выйдзе тая дзяўчынка, якая ўчора цікавілася гісторыяй, ці не?

— І вось, нарэшце, яна з'явілася! Мы не падмануліся ў сваім чаканні, — і ў голасе Інфа-1 было штосьці ненатуральнае, быццам ён пад некага падрабляўся. «Праўду Вольга ўчора сказала, бадзяюцца тут розныя, — падумала Насця. — Прычапіліся і цяпер ад іх не адчэпішся», а ўслых прамовіла зусім іншае, нават какетліва:

— Зараз скажаце, што прыйшлі да свайго сябра, а яго няма дома. Хіба не так?

Яна села на лавачку, і тут жа з падсобкі выглянула дворнічыха цётка Маня, якая да прыходу Насці падмятала асфальт ля пад'езда, і цяпер ужо збіралася ісці дамоў. Яе працоўны дзень скончыўся. Яна зірнула на Насцю і запыталася:

— Гэта ты мне нешта сказала, ці што?

— Вам? — здзівілася Насця і паціснула плячыма. — Не-е... Вам я нічога не казала.

Цётка Маня знікла ў падсобцы, а Насця запытальна паглядзела на падлеткаў, маўляў, што вы на гэта скажаце? Хіба ёй незразумела, што я размаўляю з вамі?

— Задумалася цётачка пра нешта сваё, вось і здалося ёй, што ты звярнулася да яе, — сказаў Інф-2, хаця сам добра ведаў, што цётка Маня не бачыла ні яго, ні Інфа-1, таму што яны яшчэ з паўгадзіны таму назад заблакіравалі сябе ад яе позіркаў, каб цётка Маня не ўступала з імі ані ў якія размовы, і яе зрок не прабіваў гэтую блакіроўку. А Інф-1 тут жа вырашыў перавесці размову на іншае, каб асабліва не засяроджвацца на цётцы Мані.

— Я ўчора вечарам дома зазірнуў у летапісы, — звярнуўся ён да Насці. — І там тое-сёе знайшоў пра князя Міхайлушку Жыгімонтавіча. Ён на самай справе калісьці княжыў у Клецку.

— І яму не ўдалося здзейсніць свой намер, ага-а? — хутка запыталася Насця, а хутчэй сцвярджала гэта, і дадала: — У яго быў страшны канец. Яго потым манах нейкі атруціў.

— У адным з маскоўскіх манастыроў, — удакладніў Інф-1 і запытаўся: — А ты адкуль сама пра гэта даведалася?

Насця павярнулася да яго, каб адказаць, і ёй стала нядобра. Вочы Інфа-1 звузіліся, у іх свяціліся хітрынкі і зусім не падлетка, а чалавека, які ставіцца паблажліва да яе, толькі і ўсяго, — як нехта дарослы да немаўляці. А што думае ён у гэты момант на самай справе — гэта вядома толькі яму аднаму. «У падлеткаў, калі яны самыя звычайныя, не бывае такіх вачэй з двайным дном, — падумалася Насці. — Гэтыя хлопцы няшчырыя».

А тым часам з падсобкі выйшла цётка Маня. Яна пераапранулася ў іншае адзенне і выглядала даволі сімпатычна. Калі падышла да лавачкі, прыпынілася.

— Табе, дзяўчынка, трэба звярнуцца да доктара. Ты размаўляеш сама з сабою, — сказала яна і пайшла сваім шляхам, чапляючы даволі аб'ёмную сумку, якую дагэтуль трымала ў руках, на плячо.

— Ненармальная! — фыркнула Насця і тут жа забылася пра цётку Маню, таму што да лавачкі ўжо ішла Вольга, памахваючы ім рукою.

— Прывітанне рэкардсменам! — кіўнула яна падлеткам, як толькі падышла і села на лавачку побач з Ін-

фам-1. — Вы ўчора так хутка зніклі, — павярнулася да яго, — што мы ажно падзівіліся. У чэмпіянатах па хадзе вам трэба удзельнічаць, — і ў тую ж хвіліну змяніла тэму, звярнулася да Насці: — Ты ім яшчэ не расказвала другую частку свайго сну?

— А што, была і другая? — зрабіў здзіўлены выгляд Інф-1. — Не, пра сон у нас не было гаворкі. Мы размаўлялі пра князя Міхайлушку.

— Дарэчы, як ён закончыў сваё жыццё, Насця ўжо аднекуль ведае, — заўважыў Інф-2.

— Майму брату прысніўся сон пра яго, — сказала Насця.

І Вольга прыўзняла бровы... Яна не надта ўнікала ў Насціны сны, а тут раптам тое, што бачыла ў сваіх снах Насця, перакінулася і на Ігара, таму і перапытала:

— Твой брат прысніў Міхайлушку?

— А чаму тут здзіўляцца? — паціснуў плячыма Інф-2. — Я ўчора як наслухаўся на гэтай лавачцы пра асочніка Данілу, пра яго дачку Настусю, дык мне яна таксама ўсю ноч снілася.

— Няпраўда! — запярэчыла Насця. — Табе яна не магла сніцца, — і зірнула на Інфа-2. У яго вачах свяціліся тыя ж самыя хітрынкі, што і ў яго сябра. «Ды яны смяюцца з мяне!» — у думках раззлавалася Насця, а Інф-2 сказаў:

— Чаму ты так думаеш, што няпраўда? Калі хочаш, я магу ў некалькіх словах пераказаць свой сон. Настуся мне прыснілася ўжо дарослай, калі яна жыла ў палацы вялікага князя Казіміра ў Троках.

І тут Насця насцярожылася: «Адкуль гэты падлетак можа ведаць пра Трокі? Гэта ж ёй прыснілася, што вялікі князь запрашаў Настусю туды!»

— Ага-а, табе стала цікава, — засмяяўся Інф-2. — Настуся жыла ў Троках, як самая сапраўдная пані. З ёю нават лічыўся маршалак надворны Андрушка Гаштольтавіч.

«Гэты падлетак і пра маршалка надворнага ведае, а ён жа таксама з майго сну! — падумала Насця. — Дык, можа, пра ўсё тое, што мне прыснілася, недзе напісана: і пра асочніка Данілу, і пра Настусю...» Думкі яе блыталіся ў загадках, і Насця не знаходзіла разгадак на іх. А Вольга раптам уся заірдзелася, позірк засвяціўся, быццам ёй раптам адкрылася нейкая таямніца.

— Мне здаецца, — сказала яна, — што ў вялікага князя Казіміра і Настусі было каханне, — і яна запытальна паглядзела на Інфа-2.

Але той нічога не адказаў на гэты яе позірк, і Вольга яго маўчанне ўспрыняла па-свойму. «Падлетак засаромеўся», — падумала яна. А Насця ўявіла ўжо бачанае ёю ў сне: карэту... Вось яна спыняецца, адчыняюцца дзверцы і з іх выглядвае прывабнай знешнасці зусім яшчэ малады чалавек... Прыязна-лагодны позірк, нейкае ваганне на твары, а потым уладнае: «Яшчэ да Калядаў да вас прыедуць мае людзі», і праз паўзу замяшання вельмі мяккае: «Я запрашаю цябе да сябе ў палац...» Насця паглядзела на Вольгу, пасміхнулася:

— Ён такіх тонкіх рэчаў мог і не заўважыць у сваім сне, калі яму сапраўды снілася Настуся... А вось я... Я, калі б апынулася на яе месцы, відаць, закахалася б...

Вольга залілася смехам і, смеючыся, прамаўляла:

— Ну, Настка... Цяпер я ведаю, чаго ты так носішся са сваімі снамі... Ты закахалася! Толькі нікому пра гэта не кажы заўтра ў класе. Да цябе адразу прышпіляць: «Казімір — сын Ягайлы плюс Насця з 8 «Б» раўняецца...»

— Што раўняецца? — і Насця збянтэжылася.

— Аму-у-ур! — з націскам прамовіла Вольга. — Сэрца, праткнёнае стралою.

— А ты больш нічога прыдумаць не можаш? — Насця дэманстратыўна адвярнулася ад Вольгі і даткнулася да рукі Інфа-2, каб нешта сказаць яму, і тут жа закрычала. — Вой-вой, які ты ўвесь наэлектрызаваны! Мяне бы токам стукнула, як яшчэ іскры не пасыпаліся! Што ты носіш? Напэўна, футболка з жудаснай сінтэтыкі!

— Нармальная футболка, — адказаў Інф-2, і яму схацелася зараз жа памяняць яе, але ён ведаў, што справа не ў футболцы, а ў электрамагнітных хвалях, якія ён зменшыў у сабе да мінімуму, таму толькі трошкі адсунуўся ад дзяўчынкі. — Дык на чым мы спыніліся?

— На пачуццях Настусі да вялікага князя Казіміра, — хутка сказаў Інф-1.

— Іх схавалі стагоддзі, таму і гаварыць пра іх не варта, — Інф-2 задумаўся і працягнуў. — Мой сон быў такім доўгім, што я магу ў ім заблытацца, таму скажу адно... Калі Казімір стаў польскім каралём, дык яго жонка, каралева Эльжбета, узяла з сабою ў Кракаў Настусю. Яна давярала свае пышныя валасы толькі ёй. Настуся ўмела рабіць вельмі прыгожыя прычоскі — фасоністыя і модныя. Гэтай справе яе навучыў цырульнік-француз, яшчэ калі Настуся жыла ў вялікакняжым палацы ў Троках. А потым... Потым каралева схацела, каб Настуся ўзяла шлюб з вельмі

заможным шляхціцам, у якога быў маёнтак дзесьці пад Клецкам і шмат зямлі... І гэты Настусін шлюб быў удалым, яна нарадзіла шляхціцу трох сыноў і дзве дачкі, праўда... Праўда, ніхто ніколі не бачыў, каб Настуся шчаслівa смяялася.

— Значыцца, я мела рацыю... Настуся кахала Казіміра, — уздыхнула Вольга. А Інф-2 звярнуўся да Насці:

— Скажы, а ў цябе няма сваякоў у Клецку?

— Ёсць, — адказала яна і зноў пабачыла хітрынкі ў вачах падлетка, і падумала: «Ён, напэўна, вялікі фантазёр. Гэта ж трэба, як складна ўсё прыдумляе!», а ўслых сказала: — У Клецку ў мяне два стрыечныя браты і сястра стрыечная. А яшчэ ёсць сваякі ў вёсцы недалёка ад Клецка, там жыла мая бабуля.

— Ну, вось, бачыш, Насця, — Інф-2 загадкава пасміхнуўся. — Калі б ты была больш уважлівай, ты да многага сама дайшла б!

І гэтыя яго словы прымусілі Насцю захваляваццa.

— Да чаго? — хутка запыталася яна.

— Ты ж бачыла ў сне маленькую радзімку ў Настусі над левым брывом, у цябе яна таксама ёсць. І вочы ў вас аднолькавага колеру, як дзве перaспелыя вішні. І ўвогуле... Калі я прачнуўся сёння раніцай, я адразу ж згадаў цябе, — настолькі вы падобныя!

— Што ж тады атрымліваецца? — Вольга неяк нават разгублена пазірала то на Інфа-2, то на Насцю. — Настка, ты ж мне казала ў якім годзе рыхтаваўся замах на вялікага князя Казіміра... Калі гэта было?

— Тыя падзеі разгортваліся ў 1445 годзе, — за Насцю адказаў Інф-2.

— Цяпер — 2007, — і Вольга пачала лічыць. — Калі адняць ад гэтага года той, атрымліваецца пяцьсот шэсцьдзесят два гады. І калі... Калі падзяліць на сярэдніх шэсцьдзесят-семдзесят гадоў жыцця, дык прыблізна можа атрымацца лічба дзевяць. Настка! Ты ўсё зразумела?! Настуся — твая пра-пра-пра... прабабуля ў дзевятым калене. Пайдзі ў царкву, свечку пастаў. Мая мама кажа, што калі пачынаюць сніцца сваякі-нябожчыкі, гэта яны хочуць, каб пра іх згадалі такім чынам. Тады яны больш не сняцца.

Насця маўчала. Толькі пакратала сваю радзімку над левым брывом. Потым уважліва паглядзела на Інфа-2, а калі перавяла позірк на Інфа-1 міжволі ўздрыгнула, — у яго зялёным святлом свяціўся краёк вуха, як, бывае, свеціцца фосфар. Інф-2 заўважыў гэты яе перапуд і

сцёр з Насціных пачуццяў пачуццё спалоху, як і думкі пра пульсуючы зялёным святлом краёк вуха.

— Вольга ўсё правільна падлічыла, — сказаў ён Насці. — А я… Я — вельмі разумны хлопчык! Я адкрыў табе пачатак твайго роду.

— Ты сапраўды разумны хлопчык, — пагадзілася Насця. — Але мне ўжо хочацца дамоў.

У яе голасе чулася стомленасць, а галоўнае, яна зразумела, што ёй пра многае трэба было падумаць, таму паднялася з лавачкі і, ні з кім не развітваючыся, рушыла да свайго шостага пад'езда. Усё пачутае ашаламіла яе.

…А праз некалькі гадзін над горадам Мінскам шумела і грымела моцная навальніца. Дзе-ндзе ў дварах з карэннем выварочвала дрэвы, імклівыя патокі вады несліся па вуліцах і плошчах, і рэдкіх прахожых ад праліўнога дажджу не ратавалі парасоны… Пра навальніцу шапталіся і дзве зорачкі, што прыляпіліся да ствала раскідзістага каштана ў знаёмым двары вялікага дзевяціпавярховага дома.

— Я прадчуваў гэты прыродны катаклізм сваім рэальным вухам, — сказаў Інф-1.

— Рэалка Насця гэта заўважыла і вельмі спалохалася. Яны развучыліся чуць сваю прыроду і спадзяюцца толькі на прыборы, якія стварае іх рэальны розум.

— Хм-м, розум… Рэалкі ўспрынялі нашу бачнасць, як вельмі натуральную, але яны не змаглі зазірнуць у нашу сутнасць.

— І ніколі не змогуць, — упэўнена прамовіў Інф-2. — У лепшым выпадку, мы для іх заўжды будзем заставацца толькі як НЛА.

— Хочаш сказаць, што нам ужо трэба вяртацца? — запытаўся Інф-1. — Мы прадухілілі замах на вялікага князя Казіміра і можам гэта зрабіць хоць зараз. Я ведаю адзін шырокі калідор у нашай разамкнёнасці.

— Ён нам спатрэбіцца заўтра. Мне хочацца пабыць у іхняй школе.

— Каб праверыць маладых рэалаў на Кропкі вяртання?

— А для чаго нам гэта рабіць, Інф-1? Без патоку пэўнай інфармацыі іх усё роўна разбурыць цывілізацыя. Проста… Проста хочацца неяк развітацца з гэтай рэалкай.

## ПАЧАТАК НОВАГА НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА Ў 8 «Б». НАЗАД — ПРАЗ КАЛІДОР РАЗАМКНЁНАСЦІ

Насця ў новым зялёным пінжачку і такога ж колеру кароткай спаднічцы ўзыходзіла на школьны ганак. У руках яна трымала тры цёмна-жоўтыя ружы і ў думках была ўдзячная маці, што тая ўчора паклапацілася, купіла іх. Наўкол — шумела, звінела і, здавалася, усё наваколле поўніцца гэтым звонкім рознагалоссем першага школьнага дня новага навучальнага года. Нават ранішняе, ужо халаднаватае сонца свяціла па-асабліваму. Першаклашак трымалі за рукі ўрачыстыя бацькі, а больш старэйшыя вучні штурхаліся, задзіраліся і, разам з тым, былі рады бачыць адно аднаго пасля працяглых летніх канікул.

Насустрач Насці з расчыненых дзвярэй выскачыла ўзбуджаная Вольга і зашаптала:

— Ну, нарэшце, Настка! Ты ўчора нават не патэлефанавала мне! Так знянацку сышла... Што табе раптоўна не спадабалася ў тых хлопцах?

— Чаму не спадабалася? Я раззлавалася на сябе, — адказала Насця. — Супраць іх якраз нічога не мела. Усё да драбнічак помніла са сваіх сноў, а на радзімку над левым брывом у... Настусі не звярнула ўвагі.

Насці вельмі хацелася сказаць: «На радзімку... у маёй пра-пра-пра... прабабулі», але штосьці стрымала, хаця ў тым, што гэта было менавіта так, яна была ўпэўнена. Таму што ўчора, як толькі прыйшла дамоў, адразу патэлефанавала маці, у якой таксама была над левым брывом радзімка. Памятала Насця гэтую чорную кропачку і ў сваёй бабулі Каці, а ці была яна ў прабабулі Насты, якую Насця ўжо нават і не помніла. І маці ёй адказала, што была. Больш таго, дадала, што гэта, відаць, такі знак у іх радавы... І Насця потым доўга думала, як жа так атрымліваецца?! За пяцьсот шэсцьдзесят два гады столькі ўсяго змянілася... Усё перакройвалася, бурылася, рушылася, потым зноў і зноў аднаўлялася, але ўжо з іншым абліччам, нават дзяржаўныя межы змяняліся, а гэтая маленечкая радзімка заставалася нязменнай і перадавалася з пакалення ў пакаленне камусьці з тых, хто належаў да яе роду. Дык якая ж сіла тоіцца ў ёй, у гэтай радзімцы, якая непарушная моц?! І разам з тым, такая кароткая памяць нават у яе самой, дакладней, адсутнасць усялякай па-

мяці. Яна ўжо амаль нічога не ведае пра сваю прабабулю Насту, а што было ў глыбінях стагоддзяў, хто быў? Як выглядаў і, увогуле, як жыў?..

— У нас першы ўрок на другім паверсе, у кабінеце гісторыі, — сказала Вольга і шматзначна пасміхнулася. — Паэт нейкі будзе выступаць з вершамі. Сустрэча з пісьменнікам, як заўжды.

І дзяўчынкі ўвайшлі ў вестыбюль, сталі паднімацца на другі паверх...

— Ты ідзі, а я ў настаўніцкую зазірну, — шапнула Вольга. — Мне трэба дазнацца для сястры, які расклад у першакласак будзе заўтра, — і яна рушыла ў супрацьлеглы бок калідора.

А Насця зайшла ў кабінет гісторыі, і ўсе, хто ў ім быў, павярнуліся да яе. Яна весела прывіталася, адзначыла, што ў кабінеце зроблены рамонт, — ажно ззялі новыя шпалеры, паклала на стол ружы, дзе ўжо ляжала шмат букетаў, потым паглядзела на дошку, што вісела на сцяне, і ўся ўспыхнула. На дошцы крэйдаю было напісана буйным размашыстым почыркам: «Казімір — сын Ягайлы + Насця з 8 «Б» = »

«Ну якая ж усё-ткі Вольга... — прамільгнула думка. — Ужо ўсім расказала пра мае сны, а, можа, толькі пра нейкую пэўную частку з іх?» І Насця хутка падышла да дошкі, узяла анучку, пачала сціраць напісанае...

Васьмікласнікі маўчалі, толькі ўжо калі яна села за свой стол ля акна, хтосьці сказаў: «Маціевіч... Насця! Навошта ты сцёрла? Таццяне Пятроўне гэта спадабалася б!» Насця нават не павярнулася на голас, дастала з сумачкі ручку, сшытак і паглядзела ў акно. І тут жа нават прыўзнялася з крэсла... На школьным стадыёне, ля турніка, што знаходзіўся якраз насупраць акна, у якое яна глядзела, стаялі знаёмыя падлеткі ў пацёртых джынсах і модных футболках. Яны ўгледзелі Насцю і радасна заўсміхаліся ёй, замахалі рукамі. Яна таксама махнула ім і падумала: «Напэўна, хацелі пабачыць мяне, але чаму яны зараз не ў сваіх школах? Нешта ж нават казалі, што хтосьці з іх вучыцца ў гімназіі з гістарычным ухілам?..» Яна зноў паглядзела ў акно, і падлеткі зноў памахалі ёй.

Насця адчула цеплыню, нават пачуццё цікавасці да гэтых хлопцаў, якога не было раней. Ёй схацелася выбегчы да іх. Але ўжо залівіста звінеў званок, і Насця яшчэ раз махнула ім рукою.

У кабінет з чародкай вучняў увайшла Вольга, зірнула на Насцю, потым на дошку і села за свой стол праз

адзін рад ад Насці. «А можа гэта яна напісала пра мяне і вялікага князя Казіміра?» — падумала Насця і засяродзілася на іншым.

У кабінет ужо заходзіла Таццяна Пятроўна, якая выкладала гісторыю і была ў іх класным кіраўніком. З ёю ўвайшоў прадстаўнічы мужчына — той самы паэт, пра якога яшчэ на школьным ганку сказала Вольга. Пачаўся ўрачысты «Урок ведаў».

Вершы, якія чытаў паэт, Насці спадабаліся. Яна нават вырашыла на перапынку пайсці ў школьную бібліятэку і папрасіць якую-небудзь кніжку гэтага паэта, калі, вядома, яна там ёсць. Але Таццяна Пятроўна адцягнула яе ўвагу іншай кніжкай, якую дастала з партфеля.

— Гэта збор беларускіх летапісаў і хронік, — сказала яна, паказваючы кніжку ўсяму класу. — У нашай бібліятэцы вы такога томіка не знойдзеце, а наступным урокам у нас будзе гісторыя, на якім я вам хачу расказаць пра род вялікіх князёў літоўскіх з пакалення ды з роду Калюмнаў, — і яна паклала кніжку на першы стол, за якім сядзелі дзве выдатніцы. — Паглядзіце і перадайце далей, хай усе прагледзяць, таму што я буду задаваць пытанні.

Клас ажывіўся, Таццяна Пятроўна ўжо пра нешта размаўляла з паэтам, кніжка са зборам беларускіх летапісаў пераходзіла з рук у рукі... А калі зазвінеў званок на перапынак, да Насці падышла Вольга:

— Давай хутчэй выйдзем у калідор. Там Панасюк з гэтай кніжкай, ён разгарнуў яе якраз на той старонцы, дзе напісана і пра вялікага князя Казіміра, і пра Міхайлушку, які, сапраўды, рыхтаваў забойства...

— А пра Настусю там што-небудзь ёсць? — запыталася Насця.

— Па-мойму, няма нічога. Там зусім мала напісана, ды, відаць, летапісец толькі пра князёў пісаў.

Яны выйшлі ў калідор, але Панасюка нідзе не знайшлі.

— Гэта ён напісаў на дошцы пра цябе і вялікага князя, — сказала Вольга. — Я яшчэ ўчора расказала яму пра твае сны, мы ж з ім сябруем. А тыя падлеткі шкадавалі, што ты так хутка пайшла дамоў. Той, што бачыў сон пра тваю пра-пра-пра... прабабулю, хацеў яшчэ табе нешта сказаць. А мне не стаў расказваць, маўляў, гэта тычыцца толькі цябе. — Вольга перадыхнула і запыталася: — А, дарэчы, як іх звалі? Мы ж з імі як след і не пазнаёміліся.

— Дык яшчэ, можа, пазнаёмімся, — пасміхнулася Насця. — Я ў акне іх бачыла, стаялі каля турніка, мне рукамі махалі...

— Прагульшчыкі няшчасныя! У першы ж дзень на заняткі не пайшлі, — і Вольга папрасіла Насцю: — А на Панасюка ты не крыўдуй, ён жа пажартаваў.

І гэты ягоны «жарт» дзяўчынкі пабачылі зноў на дошцы, калі вярнуліся ў кабінет:

«Казімір — сын Ягайлы + Насця з 8 «Б» =  »

— Сэрца не мог лепш намаляваць! — сказала Насця і не стала сціраць напісанае.

Зазвінеў званок... Яна села за свой стол і пацягнулася позіркам да акна, падлеткаў у пацёртых джынсах і модных футболках каля турніка ўжо не было. У кабінет увайшла Таццяна Пятроўна, звыкла адкрыла свой партфель, дастала з яго нататнік і некалькі сшыткаў... У 8 «Б» пачынаўся другі ўрок новага навучальнага года. Урок гісторыі...

А над Атлантычным акіянам у гэты час з хуткасцю сонечнага промня ляцелі два шары, якія можна было б прыняць за дзве поўні, калі б не ружова-ліловае ззянне, якое яны выпраменьвалі. Шары ўжо набліжаліся да калідора разамкнёнасці — шляху ў іншы свет, пакуль чужы і невядомы чалавечаму розуму. І на падлёце да мяжы двух светаў, што раздзяляла іх нябачнаю сцяною, пачуўся голас:

— Ты ўжо адпачыў, Інф-2?

— Збіраюся... Хачу паслухаць геніяльнага рэала. Тэмбр яго голасу мяне супакойвае, напаўняе асалодай і яшчэ шмат... Шмат чым.

І адразу ж пасля гэтых слоў Інфа-2 над неабдымнай Атлантыкай, запаўняючы ўсё сабою, і адплываючы разам з шарамі ў калідор разамкнёнасці, загучаў голас француза Джо Дасэна: «Et si tu n’existais pas...»[*]

---

[*] Калі б цябе не было... *(Пераклад з французскай мовы).*